*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
5
ЛІПЕНЯ
1991 г.
№ 27 (3593)

ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.

КОШТ—15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

## СПОВЕДЗЬ ЗНЯВЕРАНАГА

**Віктар ПАЎЛЮЧЭНКА: «Украіна развівалася ў тых самых умовах, што і Беларусь, нават не мела тае 400-гадовай дзяржаўнасці мовы. Але ж узровень свядомасці, прага да незалежнасці непараўнальныя з нашымі. І з'яўляецца ў мяне «крамольная» думка, што нацыянальны нігілізм — рыса народнага характару беларуса. Увесь час нацыянал-адраджэнцы звалі народ да абуджэння, пакутавалі за гэта, садзіліся ў турмы, ішлі на шыбеніцу. А якія вынікі!»**

СТАРОНКА 4.

## ШАЛЁНЫ КОНЬ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ



**Артыкул пісьменніка А. ЯКІМОВІЧА з каментарыем навукоўца В. АКУЛАВА.**

СТАРОНКІ 5,12.

## ПАКУЛЬ ГАРЫЦЬ СВЕЧКА

**Міхась Тычына: неюбілейная размова пра серыю «Першая кніга празаіка».**

СТАРОНКІ 6—7.

**Разам ля экрана:**

## ПРА ДОЛЮ НАРОДНУЮ

**Водгукі на тэлефільм «Плач перапёлкі».**



СТАРОНКА 10.

## СВЯТА КІРЫЛЫ І МЯФОДЗІЯ Ў БЕЛАРУСІ

**Гістарычны досвед консула Рэспублікі Балгарыя ў Беларусі Пятра Куцарава.**

СТАРОНКА 13.

## «АБЭЦЭДАРШЧЫНА» І АБЭЦЭДАРСКІ

**Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ: «Мне здаецца, што засяроджваючы крытычны агонь на Л. Абэцэдарскім, мы робім тую ж самую памылку, якую незнарок робяць крытыкі Сталіна, якія за гэтай шыльдай не бачаць каранёў сталіншчыны, таталітарызму наогул...»**

СТАРОНКІ 14—15.



## РАСКЛАДАЙЦЕ, ПАЛІЦЕ КУПАЛЛЯ КАСТРЫ...

Раз у год, на Купалле, у лясным гушчары расцвітае папараць-кветка. Той, хто пабачыць яе, будзе шчаслівым. Так гаворыць паданне. Вітаючы цвіценне папараці, людзі паляць вогнішчы, ладзяць карагоды і спевы, пускаюць па вадзе вянкі са свечкамі і пільна глядзяць услед плывучым агеньчыкам, спрабуючы разгадаць свой лёс. У святую ноч сыходзяцца на беларускай Зямлі пад нашым Небам у добрай згодзе дзве варагуючыя стыхіі — Агонь і Вада. І гэта падобна на цуд.

Усе шукаюць папараць-кветку— не ўсе знаходзяць, вось і пайшло выслоўе, што няма ў жыцці шчасця. Ды і навука сцвярджае, што папараць увогуле не цвіце. Але толькі той, хто бачыць невідочнае, можа здзейсніць немагчымае — здабыць шчасце насуперак нешчасліваму лёсу.

З ПОШТЫ ТЫДНЯ

# ШУКАЮ СВОЙ ХРАМ

На першай сесіі Вярхоўнага Савета БССР дэпутат Алег Трусаў згадаў, што не ведае выпадкаў, каб вернікі адбудовай псавалі помнікі. Што гэта не зусім так, мяне пераконвае ліст У. Арлова, Р. Барадуліна, М. Купавы, А. Марачкіна («ЛіМ» № 48 за 1990 г.). Ды не толькі ён, але і ўласныя назіранні за адбудовай Свята-Пакроўскай царквы ў Віцебску.

Храм гэты, а дакладней, трынітарскі касцёл, заснаваны ў 1760 годзе (паводле А. Сапунова). Пасля скасавання трынітарскага кляштара касцёл доўгі час быў пад юрысдыкцыяй грамадзянскай управы, і толькі ў 1847 годзе перададзены праваслаўнаму духавенству. У 1858 годзе прыйшоў дазвол «преобразовать» яго ў праваслаўную царкву. Неабходныя па гэтай справе выдаткі ўзялі на сябе віцебскія купцы Валковічы. Сталыя людзі кажуць, што дзейнічала яна і ў часе апошняй вайны.

Вялікімі высілкамі далося ратаванне помніка ў наш час. Асуджаны на разбурэнне кляштар ужо чакаў набояў у прасвідраваныя адтуліны. Дзякуй Богу, на той час знайшоўся чалавек, што па сваім разуменні і пасадзе ўступіўся за яго. Гэта быў Алег Куржалаў, тагачасны сакратар Кастрычніцкага аддзялення таварыства аховы помнікаў. За гэта неўзабаве і паляцеў з пасады. Усё ж помнік адваявалі. Каля трох соцень віцяблян прайшло праз талокі, ладжаныя суполкай аматараў даўніны «Узгор'е». Калі яны да дрыжыкаў у каленях цягалі па сходах друз і смецце, ім яшчэ і ў думках не марылася, што ўлады здатныя адчыніць тут менавіта храм. Урэшце, пачалася рэстаўрацыя. Былі распрацаваны два праекты адраджэння помніка — першапачатковы класіцыстычнага стылю і другі, псеўдарускі, з «мураўёўскімі» навершамі. Перавагу, ацаніўшы гістарычнасць і мастацкасць, аддалі першаму. Неўзабаве помнік перадаецца праваслаўнай абшчыне. З гэтага моманту і пачалася «бязлітасная барацьба з каталіцызмам». Трохкутны франтон замяніўся на паўкруглы. Шчыпец над апсідным выгібам так і не з'явіўся, затое вырас купал. Стромкім вальмавым завяршэннем вежаў таксама сказана «не» — замест іх пацягнуліся ў неба цыбуліны. Як выказаўся настаяцель храма айцец Мікалай, «ад аўтэнтычнага выгляду надта патыхала уніяцтвам». Вядома ж, нават слова «унія» дзейнічае на сучасных праваслаўных, як бел-чырвона-белы сцяг на замшэлых суперінтэрнацыяналістаў.

Я не збіраюся хаяць праваслаўных альбо якую яшчэ іншую канфесію Беларусі. Кожнай абшчыне, якая бярэ пад сваю апеку помнік, трэба памятаць аб прыналежнасці яго не толькі вернікам, але і ўсяму народу Беларусі, а ў больш шырокім сэнсе — сусветнай цывілізацыі. І ў сваім абшчынным жыцці вернікі павінны ўлічваць гэтую агульначалавечую норму. Тым больш сённяшнія ўлады пасля стольніх гадоў здушэння рэлігійнага жыцця літаральна сцелюцца перад Рускай праваслаўнай царквой, уважаючы яе адзіна правільнай і дасканалай. Нават Міністэрства культуры БССР узаконіла пераробку, якая знішчае гістарычна-мастацкую каштоўнасць помніка. Не ўзнялі голасу ні галоўны мастак Віцебска, ні галоўны архітэктар, хаця запэўнівалі — ніякіх адхіленняў ад праекта не будзе.

Ну і якой вартасці будзе цяпер помнік? Дарэчы, помнік чаму — эклектыцы? Мураўёву? Русіфікацыі? Няўжо цяжка ўцяміць, што беларуская архітэктура мае сваё, напрацаванае стагоддзямі аблічча, якое ўсмактала і сінтэзавала дасягненні Усходу і Захаду? Чаму не ўзяты за ўзор прыклад рэстаўрацыі касцёла бернардзінак у Мінску, што зараз стаўся кафедральным саборам праваслаўных? Дзеля канону купалочак узведзены, але не псуе першапачатковага выгляду храма.

Калі айцец Андрэй агітаваў за перадачу помніка абшчыне, то палымяна запэўніваў: знойдзецца ў ім месца для беларускай культуры, што будзе і мова наша тут гучаць. Неяк я завітаў у храм, каб працягнуць гэтую размову. Ужо айцец Мікалай (нарадзіўся, дарэчы, на Полаччыне) распавёў, што мова ваша беларуская на ноты не кладзецца, яна нераспеўная, на ёй немагчыма думку выказаць, і ўвогуле яна ніколі ў набажэнстве не ўжывалася. У дадатак папракнуў, што, маўляў, узгорцы, вычышчаючы храм ад смецця, планавалі зладзіць тут сабе кабінеты пры рэстаўрацыйных майстэрнях, а як стала царква, дык і носу перасталі казаць. І ўсё ж праз некаторы час на пасяджэнне аматараў даўніны прыйшла цэлая дэпутацыя праваслаўных святароў, дзякавала за колішняе апекаванне храмам, ахвяравала два асобнікі Бібліі ды дзесяткі два расейскамоўных катэхізмаў. Спадзяюся, ад шчырага сэрца.

*Продкі будавалі храмы. Яны ўкладалі ў іх працу сваіх рук і душы, сваё бачанне свету і вечнай мудрасці. Зараз над храмам, як і пасля гвалту, чужое покрыва. У ім гучыць не наша мова. Гэты храм не для мяне. Я шукаю свой храм.*

**Міхась ПАЎЛАЎ.**
г. Віцебск.

# Кветкі — Купалу

**Яшчэ адна гадавіна мінулася з дня смерці народнага песняра Янкі Купалы. Аднак чым далей мы адыходзім ад таго дня, як яго не стала, тым больш набліжаемся да яго...**

**Вяртаюцца з незаслужанага забыцця Купалавы творы — «Тутэйшыя», «На куццю», «Сярод раз'юшаных сатрапаў», «Забраны край» і іншыя, у якіх зусім па-новаму, з пазіцый і нашага сённяшняга дня, гучыць тэма Бацькаўшчыны, асэнсоўваецца шматпакутны шлях, пройдзены роднай Беларуссю і яе народам.**

**Схіляючы галаву перад памяццю песняра, мы адначасова і распрамляем плечы. Яго запавет: «—Людзьмі звацца!» успрымаем як крэда нашага кожнага дня, як свайго роду праграму нацыянальнага Адраджэння.**

**...Леглі да надмагільнага помніка Я. Купалы кветкі. Ад супрацоўнікаў літаратурных музеяў сталіцы рэспублікі, ад пісьменнікаў, ад удзячных чытачоў.**

**Пакуль жыве Купала — жыве Беларусь!**



Фота А. КАЛЯДЫ.

# У ЭФІРЫ — «КУПАЛЬСКАЯ НОЧ»

Упершыню ў беларускім эфіры ў ноч на Івана-Купалу з 6 на 7 ліпеня радыёстанцыя «Беларуская маладзёжная» ладзіць шасцігадзінны марафон «Купальская ноч». З 19.00 і да гадзіны ночы ў прамым эфіры — вядомыя дзеячы беларускага Адраджэння, мастакі, паэты, музыкі, народныя майстры, людзі, якія, як кажуць, складаюць «залаты фонд» нацыі. Перасоўвачныя студыі злучаць радыёдом на вуліцы Чырвонай у Мінску з месцамі правядзення купальскіх святаў у розных кутках Беларусі. Прамыя тэлефоны гарантуюць удзел у марафоне шматлікім слухачам. Не абыдзецца, вядома, без прысутнасці ведзьмакоў, русалак ды іншай «д'ябальшчыны».

Згодна з паганскімі ўяўленнямі, Купальскае свята — час найвышэйшага росквіту Зямлі і людзей, еднасці ўсяго жывога. Вось і па задуме арганізатараў радыёмарафона чарадзейнай папараць-кветкай, увасобленай і ўзгадаванай з дапамогай дабрачынных спонсараў і мецэнатаў, павінен стаць збор сродкаў на стварэнне першага на Беларусі нацыянальнага мастацкага ліцэя ў Мінску. Арганізацыі, прадпрыемствы, кааператывы, асобныя грамадзяне змогуць паведаміць пра свае ахвяраванні проста ў эфіры. Разліковы рахунак, на які можна пералічыць грошы: **14221 у Маскоўскім аддзяленні Мінскбізнесбанка, з *паметкай Цэнтральнае раёна,* школа № 26, МФО 400042.**

Запрашаем падтрымаць гэту ідэю, стаць нашымі партнёрамі ў высакароднай справе. І да сустрэчы на хвалі «Купальскай ночы»!

**В. СЯМАШКА,**
*супрацоўнік радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная».*

ДУМКА ЧЫТАЧА

# ДА РЫНКУ — ПРАЗ ДЭМАКРАТЫЮ

Апошнім часам пераход да рынку — на словах — вітаюць амаль усе. Толькі, на жаль, шмат яшчэ людзей, што ані не хочуць прыходу дэмакратыі. Пры гэтым спасылаюцца на вопыт такіх краін, як Чылі, Паўднёвая Карэя, Тайвань і інш. Маўляў, і Савецкаму Саюзу найлепей было б выбраць менавіта такі шлях: рынак без дэмакратыі. Пры гэтым дадаецца, што так званыя дэмакраты нібыта развалілі ўжо краіну, і далейшая дэмакратызацыя прывядзе да яшчэ горшага вэрхалу.

Давайце паспрабуем разабрацца, у каго рэальная палітычная і эканамічная ўлада ў нашай краіне: у дэмакратаў ці ў тых самых сіл, што кіравалі краінай усе папярэднія 73 гады і давялі яе да таго, што нават добры ўраджай — гэта нагода для ўвядзення надзвычайнага становішча, як было летась у некаторых абласцях Саюза? Адказ вядомы: улада ў таго, хто аддае загады і каму падпарадкоўваюцца дзяржаўныя структуры, у тым ліку і ўзброеныя сілы. Дык вось: рэальная палітычная і эканамічная ўлада — не ў дэмакратаў.

Варта таксама падумаць над такім пытаннем: можа, у дэмакратычных краінах болей, чым у нас, парушаюць правілы дарожнага руху, ідучы ці едучы на чырвонае святло святлафора? Ці не выконваюць патрабаванні тэхналогіі на вытворчасці? Адказ таксама вядомы.

Так, многія краіны, раней эканамічна адсталыя, — цяпер «новыя індустрыяльныя дзяржавы», сярод якіх, дарэчы, многія нафтаздабываючыя (і нафтаэкспартуючыя, зразумела. Між іншым, куды падзеліся каля 180 млрд. нафтадолараў, якія СССР атрымаў за прададзеную за мяжу нафту ў 70-х гадах?). І Пакістан, і Турцыя, і Філіпіны, і Тайланд, і Сінгапур, ужо не кажу пра Саудаўскую Аравію і Кувейт да іракскай агрэсіі, — маюць добрыя эканамічныя поспехі. Але яны, гэтыя поспехі, не з неба зваліліся. Тая ж Турцыя перад пяццю гадамі «ўзлёту» прайшла важны этап дэбюракратызацыі.

А цяпер наконт прыкладу Чылі пры Пiначэце, які, дарэчы, мае вышэйшую эканамічную адукацыю, атрыманую ў ЗША. Гэты разумны палітык, па атэстацыі пана Эрнана Біхі, былога міністра фінансаў Чылі ва ўрадзе Пiначэта, для распрацоўкі мадэлі эканамічнага развіцця запрасіў каманду эканамістаў так званай Чыкагскай школы на чале з лаўрэатам Нобелеўскай прэміі вядомым Мілтанам Фрыдманам, хоць і чылійскія эканамісты мелі добрую рэпутацыю. Разумная рэалізацыя распрацаванай праграмы прынесла свае вынікі.

На выказаную думку пра тое, што крызіс у Савецкім Саюзе можна пераадолець толькі праз дыктатуру, праз навядзенне парадку «жалезнай рукой», як пры генерале Пiначэце, пан Эрнан Біхі адрэагаваў наступным чынам: «Гэта памылковы пагляд, — сказаў ён, — у 1973 годзе ў Чылі заставалася прыватная ўласнасць, у тым ліку і на зямлю, існаваў рынак, хоць і разбалансаваны сацыялістычнымі эксперыментамі Альендэ. Як я ведаю, у вас пакуль няма ні таго, ні другога. У гэтым выпадку «ўзнаўленне парадку жалезнай рукой» будзе рэалізоўваць зусім іншыя мэты — аднаўленне неэканамічных форм дыктатуры, што стане канчатковай катастрофай. Гэта па-першае. Па-другое, нават у краінах з развітым рынкам — Перу, Уругвай, Аргенціна — ваенныя рэжымы толькі адкідвалі эканоміку назад».

Гельмут Шміт, нязменны канцлер ФРГ з 1974 па 1982 год так адрэагаваў на мары некаторых савецкіх афіцэраў аб рэжыме ў духу Пiначэта: гэта быў бы эканамічны правал, раўназначны падзенню ў прорву. Пры гэтым узрасла б і пагроза ўзнаўлення палітыкі сілы за межамі СССР, для кампенсацыі страчанага прэстыжу ўнутры краіны (гл. «Известия» за 17 мая 1991 года).

Прывяду яшчэ адну ацэнку. Нядаўна Арганізацыя эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця (АЭСР, якая аб'ядноўвае 24 развітыя краіны) разам з Сусветным банкам, Міжнародным валютным фондам і Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця прааналізавалі стан савецкай эканомікі. На пытанне, ці з'яўляецца развіццё дэмакратыі абавязковай умовай эканамічнага поспеху, генеральны сакратар АЭСР Жан-Клод Пэй адказаў: «Я лічу, што развіццё дэмакратыі — якраз тая ўмова, без якой немагчыма ўстойлівае развіццё савецкай эканомікі». Ён зазначыў, што і без плюралістычнай дэмакратыі можна мець эканамічныя поспехі, аднак стабільнае эканамічнае развіццё і сацыяльны прагрэс не могуць існаваць без палітычнай дэмакратыі.

Ды і самім нам варта ўспомніць не такі даўні эксперымент з хрушчоўскімі і постхрушчоўскімі эканамічнымі рэформамі, падумаць аб прычынах іх правалу, якія, відаць, галоўным чынам заключаюцца ў тым, што частковыя рэформы ў эканоміцы, без глыбокіх дэмакратычных пераўтварэнняў у палітычным і ўсім грамадскім жыцці, не маглі і не змогуць быць рэалізаванымі на радзіме камандна-адміністрацыйнай сістэмы кіравання. Толькі глыбокія рэформы ў эканамічнай і палітычнай сферах, з адпаведнымі зменамі ў свядомасці людзей і іх дзеяннях, могуць вывесці краіну з крызісу.

Паэт некалі пісаў: «Эх, каб цёмен не быў, чытаць кніжкі ўмеў, я б і долю здабыў...» Чытаць цяпер умеюць усе, і разумных кніжак нямала ў нас. Значыць, засталося **толькі** навучыцца чытаць з розумам — і думаць аб прачытаным, убачаным, нарэшце, даўно добра вядомым, але што чалавек часам не можа ці, найчасцей, баіцца асэнсаваць.

**Л. БАРЫСАЎ.**
г. Мінск.

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# НЕ ЗАХАПЛЯЦЦА!

## Споведзь зняверанага

З пачаткам нацыянальнага абуджэння я таксама быў апанганы гэтай ідэяй. З цягам часу эйфарыя першых гадоў адышла. Што ж, сапраўды можна прыводзіць шматлікія сведчанні паступовай перамогі другой у гэтым стагоддзі спробы беларусізацыі. Глядзіце: прыняты Закон аб мовах, Дэкларацыя аб суверэнітэце, з высокіх трыбун гаворыцца аб нацыянальных праблемах, БНФ мае болей прыхільнікаў, чым КПБ, адчыняюцца беларускія гімназіі, школкі, дзіцячыя садкі, пашыраецца колькасць беларускамоўных газет (іх нават ад падаткаў вызвалілі!) і г. д.

І ўсё ж — як выконваецца той закон? Выключна на «грамадскіх пачатках». Ці будзе ў дзяржаўнай установе калі-небудзь функцыянаваць беларуская мова, залежыць толькі ад асабістага жадання кіраўніка.

Выкананне закона неабходна кантраляваць на дзяржаўным узроўні. Але адкуль гэты кантроль возьмецца? «Кіруючая і накіроўваючая» партыя ды яе прадстаўнікі ў вышэйшым заканадаўчым органе размаўляюць па-руску і зусім не заклапочаны станам дзяржаўнай мовы. Няхай пакажуць мне дэпутата, які не належыць да апазіцыі і які размаўляў бы па-беларуску? Не знойдзеце. Дбае пра мову толькі апазіцыя, ды яна, на жаль, не можа фарміраваць урад і ўплываць на палітыку дзяржавы. Зрэдку пачуеш запэўніванні (па-руску), што жыццё на Беларусі ўсё-такі стане беларускім, ды гэта патрэбна толькі, каб супакоіць апазіцыю.

Варта прыгадаць яшчэ адзін момант, на які чамусьці ў нас не звярнулі ўвагі: «Визитные карточки покупателя» надрукаваны зноў-такі па-руску. Ці гэта таксама — каб было зразумела гасцям рэспублікі?

Увогуле, якой абароны суверэнітэту мы чакаем ад нашага ўрада, калі ён, ледзь паспеюць Прэзідэнт з Кабінетам міністраў СССР прыняць пастанову (*пра абмен купюраў, 5% падатак і г. д.*), хутчэй, быццам баючыся некуды спазніцца, прымае сваю пастанову «ў развіццё» саюзнае?

А якім бачыцца наш суверэнітэт? На сустрэчы Гарбачова з прадстаўнікамі інтэлігенцыі ў АН БССР адзін з распрацоўшчыкаў беларускага праекта Саюзнага дагавору зазначыў: «За мяжой нас найперш паважаюць як грамадзян СССР, а ўжо потым — як грамадзян Беларусі». І не разумее ён, што не гонар гэта, а ганьба для нас.

Што тычыцца высокага рэйтынгу БНФ, дык тут усё проста: КПСС ва ўсім Саюзе страчвае папулярнасць (калі яшчэ можна так гаварыць аб тых гаротных працэнтах, якія яна атрымлівае ў час сацыялагічных даследаванняў), БНФ быў яе першай і адзінай апазіцыяй на Беларусі. Я лічу, што большасць прыхільнікаў БНФ атрымаў з-за сваіх агульнадэмакратычных ідэй і асабліва з-за пазіцыі па Чарнобылі. Са з'яўленнем партый, якія разыходзяцца з БНФ па пытанні беларусізацыі, пойдзе адток з фронту тых людзей, што супраць беларушчыны. Падазраю, што Аб'яднаная дэмакратычная партыя з'яўляецца менавіта такой партыяй, калі верыць «Нашаму слову»: «З прынятых (*на з'ездзе 3—4 лістапада 1990 г.* — **В. П.**) дакументаў вынікае, што новая партыя не дамагаецца грунтоўных пераменаў у нацыянальным жыцці Беларусі» («Наша слова» № 9 за 1990 г.).

Давайце цвяроза паглядзім на працэс беларусізацыі ў галіне адукацыі. Мы радуемся: адчынілася беларуская гімназія! Але паглядзіце, колькі адкрылася за гэты час рускіх гімназій ды ліцэяў у Мінску! Выпускнікі гімназій будуць красамоўна распавядаць пра рускую паэзію пачатку XX ст. ці пра сусветнае значэнне творчасці Пушкіна і Талстога, але з цяжкасцю прыгадаюць 1—2 імя беларускіх літаратараў. Баюся, што выпускнікі гэтых гімназій папоўняць шэрагі «патрыётаў» з «Белой Руси». Словам, усё пазнаецца ў параўнанні. Колькасць беларускіх школак (часцей — класаў), беларускіх садкоў (часцей — групак) у працэнтавым стасунку да агульнае лічбы нават незаўважальная.

Тое ж трэба сказаць аб павелічэнні колькасці беларускамоўных выданняў. З'явіліся 2—3 такія газеты, а колькі новых рускамоўных! А колькі пераведзены на рускую мову! Зазірніце ў любы кіёск «Саюздруку» (прынамсі, у Гомелі) і падлічыце: колькі беларускіх, а колькі рускіх газет там ёсць. Ды дзеля цікаўнасці параўнайце, якіх болей купляюць. Аналагічную працу можна правесці і ў кнігарнях: да паліц з беларускімі кнігамі наведвальнікі амаль не падыходзяць.

Зараз гучыць: нацыя можа знікнуць! Трэба прыкласці ўсе намаганні дзеля яе выратавання! Позна. Нацыя ўжо знікла. І тыя рэшткі «фанатаў»-беларусаў, што, як і я, купляюць беларускія кнігі і выпісваюць беларускія газеты, з'яўляюцца, бадай што, апошнім пакаленнем свядомых беларусаў. Мы ўзняліся на хвалі агульнага радыкалізму. Новае пакаленне не цікавіцца нацыянальным пытаннем, у моладзі няма беларускага духоўнага лідэра, таму спадзяванняў на «племя молодое» вельмі няшмат.

Існаванне нацыі залежыць *ад наяўнасці трох прыкмет*: агульных гісторыі, мовы, культуры. Прытым яны павінны быць адметнымі, уласцівымі толькі гэтай нацыі.

Такой гісторыі ў народа няма. Ёсць канцэпцыя «расейскага старэйшага брата»: Беларусь ад самага стварэння яе Богам была пад прыгнётам розных дзяржаў, і толькі Расея імкнулася ўвесь час дапамагчы ёй вызваліцца, чаго, нарэшце, яна дамаглася і «ашчаслівіла» беларускі народ. Якая ж нацыя захоча мець гэткую гісторыю — гісторыю пакутніцы, якая ўвесь час толькі і рабіла, што ціхенька плакала ад нечых бізуноў? Прыемней усведамляць сябе «великороссами» — вунь якая Расея вялікая ды магутная!

Гарбачоў на сустрэчы з рабочымі Мінскага трактарнага завода зазначыў: ці хочам мы вяртацца да шматковасці Русі часоў Івана Каліты? Але якое дачыненне мае Беларусь да гэтага? Мы ў той час жылі ў асобнай незалежнай дзяржаве!

Беларусы не ведаюць сваёй гісторыі і таму не хочуць яе бараніць. Адсюль і гэткія словы Прэзідэнта, абразлівыя для нармальнага народа, але цалкам прымальныя для беларусаў.

Горкай іроніяй гучаць зараз радкі Янкі Купалы: «...Як жа йначай беларусы могуць гаманіці?» На жаль, могуць.

Мова перастала ўжо быць «матчынай», бо не чуем яе болей з вуснаў маці, стараецца тая зрабіць са свайго дзіцяці «культурнага» чалавека, каб не размаўляў ён на «дзеравенскам языке». Дзе зараз пачуем мову? У горадзе гучыць руская, на вёсцы старэйшыя трымаюцца роднай мовы, а вось маладзейшыя гавораць «барбарскай расійска-беларускай чаўнёй, слухаючы якую гадка робіцца» (В. Ластоўскі), упарта стараючыся пазбавіцца рэшты беларускіх слоў.

Мова існуе, пакуль жыве ў народзе. Калі спрабуем перавучыцца на беларускую мову з дапамогай падручнікаў, слоўнікаў, дык гэта ўжо не жывая мова. Адметнай рысай жывой мовы з'яўляецца слэнг, жаргон (тут я маю на ўвазе не лаянку, а, напрыклад, маладзёжны слэнг). Канечне, можна гаварыць пра чысціню мовы, але вельмі ненатуральна гучыць сярод беларускае гаворкі «забойны кліп» ці «тусоўка». Яны тут недарэчы.

Мова, зразумела, сама па сабе не адродзіцца, патрэбна прапаганда. І значная роля павінна адводзіцца тэлевізіі і радыё. Але зараз яны не спрыяюць адраджэнню, а хутчэй наадварот. Варта толькі паслухаць гаворку дыктараў ды вядучых перадач, і гэта можа назаўсёды адбіць жаданне авалодаць беларускай мовай: безліч памылак, рускіх слоў, а пра вымаўленне ўжо няма чаго і казаць! Вядучыя не імкнуцца да лепшага авалодання моваю, не звяртаюць увагі на шматлікія артыкулы ў газетах і часопісах, якія датычаць і іхняе прафесіі. Таму і з'яўляюцца гэтакія недарэчнасці, як «вялікае дзякуй», «мінута», «добрай раніцы» і «да пабачэння». Каму незразумела, у чым тут справа, чытайце А. Клышку ў «Маладосці».

Шмат гаварылася пра неабходнасць вяртання да «тарашкевіцы» — дарэформавага правапісу. Тое гучанне надае мове нейкі адмысловы каларыт і мілагучнасць, падкрэслівае галоўную рысу мовы — яе мяккасць, якою некалі захапляўся У. Дубоўка. (Адсюль і «обилие мягких знаков», як выказаўся адзін са «звышінтэрнацыяналістаў» у «Свабодзе»). Слушнай падаецца мне думка аб мажлівасці вяртання да таго правапісу, пакуль вельмі малая частка беларусаў валодае сваёй моваю.

Для авалодання мовай неабходныя слоўнікі. Але ў кнігарні ляжаць толькі недасканалы руска-беларускі Грабчыкава і надта ідэалагізаваны арфаграфічны *Лобана і Судніка* (няўжо такія цяжкасці пры напісанні выклікаюць словы «праграма-мінімум» і «праграма-максімум», што іх абвязкова трэба ўключаць у слоўнік?) А дзе ж дапаможнікі і падручнікі?

*Увесь час перабудовы нашы* адраджэнцы толькі плачуць пра занядбаную мову, але ж менавіта яны могуць рабіць канкрэтныя крокі дзеля яе выратавання. Ды чамусьці і дагэтуль няма добрага слоўніка па навуковай тэрміналогіі. А чаму б не перавыдаць В. Іваноўскага, В. Ластоўскага ды іншых? Няўжо настолькі нябачнаю з'яўляецца праблема рэформы правапісу, што канферэнцыю па гэтым пытанні вырашана склікаць толькі напрыканцы 1991 года?

І апошняе — нацыянальная культура. З прычыны таго, што народ пазбаўлены ўласнае гісторыі і мовы, ён не ўсведамляе здабыткі беларускай культуры сваімі. Дзе зараз наша нацыянальная культура? Кінематограф: ледзь паспеўшы выпусціць у свет адзіны беларускі фільм «Маці ўрагану», «Беларусьфільм» стварае стужку па творы В. Бялова «Всё впереди», ці, напрыклад, «Прости нас, мачеха-Россия!», дзе ўжо ў назову зразумела, што фільм стаіць далёка ад беларускай нацыянальнай культуры.

Тыя, хто малюе, ужо падзяліліся на «мастакоў» і «художников», прычым апошніх аказалася пераважная большасць. Відаць, пра архітэктуру і скульптуру сказаць можна тое самае.

Такім чынам, тры стаўпы, на якіх трымаецца існаванне нацыі, — дзе яны?

Навошта я пра гэта гавару? Хачу, каб зразумелі, што рана захапляцца мізэрнымі поспехамі: тое, чаго дастаткова ў Летуве, мала на Беларусі. У першым выпадку — існаванне нацыі і высокі ўзровень самасвядомасці, у другім — адваротнае. Калі ў Летуве на першы перыяд дастаткова адкрыцця некалькіх беларускіх школак ды дзіцячых садкоў, дык на Беларусі гэтакія марудныя тэмпы згубныя. Але атрымліваецца наадварот: дзе добра з мовай — прыкладаюць намаганні дзеля яе захавання і развіцця, дзе ж мова знікае — ставяць вялізныя тэрміны на яе адраджэнне, «бо народ нас не зразумее».

Ды што Летува! Украіна развівалася ў тых самых умовах, што і Беларусь, нават не мела тае 400-гадовай дзяржаўнасці мовы. Але ж узровень свядомасці, прага да незалежнасці *непараўнальныя з нашымі*. І з'яўляецца ў мяне «крамольная» думка, што нацыянальны нігілізм — рыса народнага характару беларуса. Увесь час нацыянал-адраджэнцы звалі народ да абуджэння, пакутавалі за гэта, садзіліся ў турмы, ішлі на шыбеніцу. А якія вынікі?

Але, пачуўшы вынікі рэферэндуму, мне ўспомнілася трапнае выслоўе: «Народ мае той урад, якога варты». Не крыўдуйце на Гарбачова і Дзямянцея, на Палазкова і Камая — вы самі іх падтрымалі і выказалі давер. Гомельцы з магілёўцамі! Няўжо вам мала аднаго Чарнобыля? Паміраюць вашы дзеці, а вы зноў паверылі, што без Саюза нам не выкараскацца?! Мы ж перамагаем свой Чарнобыль ужо 5 гадоў, а ад Саюза за гэты час — толькі ўказанне Рыжкова: схаваць ад людзей інфармацыю. На гэтым рэферэндуме вы падтрымалі павышэнне цэн і бязглуздую кампенсацыю, рабаўнічы *5-працэнтны падатак з продажу*, бессэнсоўны абмен грошай, так што позна зараз страйкаваць ды дамагацца адстаўкі Прэзідэнта і Вярхоўнага Савета — у вас была мажлівасць адмовіць ім, але вы гэтага не зрабілі.

Вы падтрымалі нацыянальны нігілізм як афіцыйную дзяржаўную пазіцыю ўрада, сказалі «так» духоўнаму і фізічнаму Чарнобылю.

Вы адмовіліся самі ад права называцца нацыяй, ад права на самавызначэнне, ад права заняць свой «пачэсны пасад між народамі».

Ганьба, беларусы!

Калі вас яшчэ можна так назваць...

**Віктар ПАЎЛЕНКА,**
**студэнт эканамічнага факультэта Гомельскага дзяржуніверсітэта.**

НОВЫЯ ВЫДАННІ

## «ГРУНВАЛЬД» — ГОЛАС БЕЛАРУСАЎ ЭСТОНІІ

**Выйшаў у свет чарговы нумар незалежнага беларускага часопіса «Грунвальд», выданне аднайменнага Беларускага культурнага таварыства ў Эстоніі. Нумар падрыхтаваны з матэрыялаў беларускай эміграцыі. У ім змешчаны ўспаміны Яўхіма Кіпеля «Смаленск у 1919 годзе», нататкі пра беларускую геральдыку «Хамутоў ня знаюць коні продкаў» Юркі Віцьбіча, матэрыялы да ўгодкаў акту 25 сакавіка 1918 і 150-й гадавіны нараджэння Францішка Багушэвіча, агляд публікацый па пытаннях гістарычнай Літвы і этнічнай Летувы, «Нашы папярэднікі» — нарыс гісторыі беларускай эміграцыі з XV да пачатку XX стагоддзя, нататкі пра трагічны лёс беларускіх архіваў, успамін аб вядомай (на жаль, не на Бацькаўшчыне) дзеячцы беларускага нацыянальнага руху княгіні Магдалене Радзівіл, вершы Алеся Змагара і Янкі Золака, развагі аб гісторыі і сённяшнім дні адной з жамчужын Беларусі — Нясвіжы.**

**На першай вокладцы часопіса фотаздымак: *беларускія сялянскія дзеці пачатку стагоддзя* і надпіс «Другая Беларусь». Якая годнасць у постацях і тварах! Як яны не падобны на затурканых дзетак на сённяшніх групавых дзетсадаўскіх фотаздымках. Сапраўды — другая Беларусь. Нас прымусілі забыць, што яна была.**

**Для тых, хто хацеў бы падпісацца на часопіс ці даслаць у рэдакцыю свае карэспандэнцыі, называем адрас «Грунвальда»: 220090. Эстонія. Талін. Аб/скр. 3290.**

НАШ КАЛЯНДАР

## ЗАГЛЯДАЛА СОНЦА...

**Дата не сказаць каб надта «круглая», але ўсё ж не прыгадаць яе не выпадае. У маі споўнілася 85 гадоў з дня заснавання ў Пецярбурзе суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца» (працавала да 1914 года), якая па сутнасці стала першым беларускім легальным выдавецтвам. Суполка, што ўзнікла па ініцыятыве Браніслава Эпімаха-Шыпілы, ставіла на мэце «друкаваць і шырыць паміж людзёў ксёнжкі беларускія і ўсё, што датычэ Беларусі».**

**З пастаўленай задачай суполка справілася няблага. Дзякуючы ёй, адраджэнцкае сонца, сонца асветы, культуры, літаратуры пачало заглядваць і ў беларускія хаты. Кнігі, якія друкаваліся ў друкарні К. Пянткоўскага (кірыліцай і лацінкай, а некаторыя адразу двума шрыфтамі), рэгулярна адпраўляліся на Беларусь, куды трапляла пераважная большасць тыражу.**

***Пачало*** **таварыства з выпуску «Беларускага лемантара, або Першай навукі чытання» К. Каганца. Усяго ж выдадзена было 38 кніг агульным тыражом больш за 100 тысяч экземпляраў. Сярод іх — першыя зборнікі Я. Купалы, З. Бядулі, Ц. Гартнага.**

**Асобна трэба адзначыць паважнае стаўленне выдаўцоў да літаратурнай спадчыны. Падпісная серыя з шасці кніг «Беларускія песняры» выйшла тыражом не такім малым і на сённяшні дзень — кожная па 4 тысячы 300 экземпляраў. Выдаваліся таксама паштоўкі, навукова-папулярныя і публіцыстычныя брашуры, драматычныя творы (у тым ліку «Паўлінка» *Янкі Купалы*). *Дзеля* згуртавання творчай моладзі нямала зрабіў альманах «Маладая Беларусь».**

**СПРЭЧКІ, ПАЛЕМІКА**

# Шалёны конь прыватызацыі

СЁННЯ паўсюдна чуецца: «Рынак... Рыначная эканоміка...» А за гэтымі словамі пакуль не ўголас, а напаўшэптам паўзе: «Пры-ва-ты-за-цы-я-я...» Гэтае нязведанае — «прыватызацыя» — вісіць над намі, як бязлітасны дамоклаў меч, наганяючы страх, пазбаўляючы розуму.

Паразважаем аб тым, што дасць усім нам прыватызацыя, якая няўмольна, як цяжкая навальнічная хмара, насоўваецца на нас. Напісаў «насоўваецца» — і прыпыніўся, задумаўся. Яна ж фактычна пачалася ўжо. Не сёння і нават не ўчора, а значна раней. Першымі яе астраўкамі-зародкамі ў краіне сталі кааператывы, арэндныя калектывы, якія пасля выраслі, як грыбы пасля дажджу, і, як ні дзіўна на першы погляд, тая эканамічная самастойнасць, што была дадзена прамысловым прадпрыемствам. Мы бачым, да чаго прывяло ўсё гэта, не падмацаванае эканамічнымі законамі-рэгулятарамі. Савецкія работнікі, занятыя думкамі, як уседзець ва ўтульным крэсле, бяздзейнічаюць ці вядуць вайну з нефармаламі, партыя таксама вядзе ўлартую барацьбу за ўласнае выжыванне, выкідваючы сабраныя па капейках грошы на правядзенне бясконцых канферэнцый, з'ездаў. А цэны імкліва шуганулі ўгору, эканоміка разбалансавана, як па загадзе нейкага злога чараўніка-ведзьмака зніклі тавары (ад мыла да шыла), ценявая эканоміка, як пішуць эканамісты, нажывае ўжо не мільёны, а мільярды. Хто ж яны, няўлоўныя, нябачныя, нейкія міфічныя прадстаўнікі гэтай самай ценявой эканомікі? Не думаю, што да іх можна аднесці рабочых, калгаснікаў, нашу занядбаную інтэлігенцыю. Яны не могуць варочаць мільёнамі, мільярдамі. Яны не маюць улады, яны, па сутнасці, у становішчы, блізкім да рабскага. Ці не з'яўляюцца прадстаўнікамі ценявой эканомікі тыя, хто даўно страціў (калі яна ў іх была) нацыянальную самасвядомасць, хто, выдаючы нам шматлікія лозунгі-заклікі, падманвае народ?' Ім жылося някепска раней, а цяпер, як мне здаецца, жывецца яшчэ лепш, бо ў гэты неспакойны час, час хаосу, у мутнай вадзе няцяжка злавіць рыбку. Праўда, апошнім часам яны не злоўжываюць лозунгамі-заклікамі, разумеючы, што ў іх цяпер ніхто не паверыць. Яны сталі на ўсё горла крычаць, што ім трэба зарабляць валюту, каб абнавіць абсталяванне, па-новаму наладзіць вытворчасць і г. д. і да т. п. Мы глядзелі на іх і слухалі, разявіўшы раты. І паплылі за мяжу бясконцаю ракою і лес кругляками, і каляровыя металы, і каўняры ад нашых паліто... А мы ўсё чакалі, што вось-вось і да нас разам з новым, сучасным абсталяваннем прыплыве тое, што з'яўляецца, як кажуць, нашай першай неабходнасцю: яда і пітво. Але не дачакаліся мы ні новага абсталявання (многія кіраўнікі змарнавалі і тое, што раней было пазычана), ні замежнай валюты (дзяржаве за тытунь няма чым расплаціцца). За ўсё сваё жыццё асабіста я тую замежную валюту нават у вочы не бачыў. Дзе ж яна? Няўжо яе чэрці рагатыя ў балотную твань зацягнулі? Нейкі адказ на гэта, па-мойму, можа даць артыкул уласнага карэспандэнта «Комсомольской правды» М. Даўгаполава пад шматзначнай назвай «Крычалі жанчыны «ўра». Вось што піша карэспандэнт, які не адзін год працуе ў Францыі і ўважліва сочыць за яе жыццём: «У Францыі, да прыкладу, часцей і часцей чуюцца асцярожныя заклікі: пачакаем, паглядзім, з кім у СССР заключаць пагадненні і каму даваць крэдыты. Сапраўды, прэтэндэнтаў нямала — Цэнтр, рэспублікі, сярэднія і малыя прадпрыемствы, не кажучы аб вялікіх. Можна заблытацца. Яны збіваюць цану, заключаюць кантракты ніжэй узроўню не толькі сусветнага кошту, але і агульнапрынятага, разумнага. Схапіць бы нешта, вырваць нейкія франкі, долары, піястры...».

**Як бачна, нашы навяўленыя нуворышы не грэбуюць нічым, абы прадаць і прыгарнуць да сябе. Нават «капіталістычныя акулы» Захаду шакіраваны іхняй бессаромнасцю. Вядома, гэтых *шарлатанаў нічым не пера*канаеш. Яны не будуць асабліва бедаваць, калі краіна ці рэспубліка ператворыцца ў пажарышча, як не бядуюць яны з-за таго, што нашу Беларусь шчодра ўгноіў радыеактыўны *попел.* Каб бедаваць і клапаціцца, трэба адчуваць сябе часцінкай свайго народа, трэба мець моцную нацыянальную самасвядомасць. Не думаю я, што, напрыклад, кіраўніцтва Польшчы ці Чэха-Славакіі, дзе ў людзей здаўна моцна праяўляецца нацыянальная самасвядомасць, дазволіла б распрадаваць усё, што мажліва. Я, вядома, не збіраюся аналізаваць ці крытыкаваць метады іхняй эканамічнай палітыкі, але хацелася б звярнуць увагу на такі факт. Многія польскія грамадзяне, якія прыязджаюць да нас, на Беларусь, імкнуцца прадаць тавары, выпушчаныя ў іншых краінах, а ў сваю вывозяць нашы тавары, наша золата (хоць крычым, што мяжа на трывалым замку), замежную валюту. Адным словам, яны ўсё робяць дзеля росквіту сваёй краіны. І не хочацца ганіць іх за гэта. Зусім жа адваротнае назіраецца ў нас. Вось да чаго давялі нас пасаджаныя нядбайнаю рукою першыя парасткі прыватызацыі.**

**А што ж нас чакае далей? Без аптымізму гляджу ў будучае. Я не супраць прыватызацыі, але ж вельмі хутка мы кідаемся з адной крайнасці ў другую. Непакоіць і тое, што камуністы, не задумваючыся, пераходзяць у капіталісты (не сакрэт, што менавіта камуністы — кіраўнікі розных узроўняў — стануць першымі нашымі прыватнікамі). А яшчэ ўчора дый сёння многія з іх білі і б'юць сябе ў грудзі, заяўляючы аб вернасці ідэалам камунізму. Не разумею, як адно стасуецца з другім, калі нават зыходзіць з напісанага ў іхніх чырвоных партыйных кніжках.**

Калі не зацугляны конь прыватызацыі паскача галопам, то шмат бяды ён наробіць. Няцяжка ўявіць, што нас чакае. Краіна падпадзе пад капіталізацыю ў самым горшым, ў самым прымітыўным сэнсе гэтага слова (між іншым, не трэба забывацца аб тым, што сваіх сацыяльных правоў народ капіталістычных краін дамагаўся дзесяцігоддзямі жорсткай барацьбы, гэтыя правы не зваліліся з неба). Не думаю, што нашы навяўленыя, нацыянальна абязлічаныя нуворышы закідаюць Беларусь таварамі. Дзеля таго, каб атрымаць як мага больш прыбытку, яны пастараюцца адправіць самае каштоўнае — тавары, сыравіну — у тыя рэспублікі, дзе ім добра заплацяць. Калі не памыляюся, ужо перайшоў у прыватную ўласнасць адзін славуты расійскі аўтамабільны завод. А ці пабольшала ў Саюзе аўтамабіляў, ці ўпала на іх цана?

І яшчэ адна, не апошняя пагроза, *што нясе з сабою пры*ватызацыя, якая здзяйсняецца, калі мы памятаем, людзьмі без роду, без племені. Да многіх нашых беларускіх прадпрыемстваў — прадпрыемстваў звышрэнтабельных — цягнуць свае рукі дзялкі з Прыбалтыкі, з Закаўказзя. Можа адбыцца так, што з цягам часу яны прыбяруць да рук львіную долю нашых матэрыяльных каштоўнасцей. Ці не стане наша рэспубліка калоніяй у іхніх руках, а мы, беларусы, іхнімі батракамі? Здаўна вялося і вядзецца: улада ў таго, у каго грошы, у каго рычагі эканомікі. Прыватызацыя ў яе сённяшнім выглядзе прывядзе да яшчэ большага сацыяльнага расслаення. У народзе ўжо падмецілі: «Хто добра жыў, той і будзе добра жыць». Але ж ці пацерпіць абабраны і напаўгалодны народ, калі будзе бачыць, як невялікая каста багацеяў купаецца ў раскошы? Некалі ж лопне ягонае цярпенне, што можа прывесці да сацыяльнага выбуху.

Цяпер хочацца прывесці канкрэтны прыклад. Адзін мой знаёмы з даволі-такі буйнога прадпрыемства вельмі прагне стаць капіталістам, маўляў, яму трэба забяспечыць будучае сваіх дзяцей (прызнаўся, што ягонае прадпрыемства збіраецца пераходзіць на арэндны падрад, а пасля і зусім яго хоча выкупіць працоўны калектыў).

*Які працоўны калектыў?* Чаму ён мае такое права? Давайце крыху паразважаем.

**Па-першае, адміністрацыя таго прадпрыемства, як я зразумеў, хоча звольніць не адну сотню рабочых, членаў свайго пастаяннага калектыву. Іх, проста кажучы, выкідаюць на вуліцу.**

**Па-другое, тое прадпрыемства не сёння з'явілася на свет. Шмат гадоў назад нашы продкі, слонімцы, будавалі яго, развівалі. Цяпер гэтае магутнае прадпрыемства, якое стваралася дзесяцігоддзямі, хочуць прыбраць да сваіх рук тыя, хто прыйшоў сюды параўнальна нядаўна.**

***Па-трэцяе, названае прадпры*емства працуе не ў вакууме, не ў касмічнай прасторы. На яго працуе ўся рэспубліка: і навукоўцы, якія рыхтуюць кадры, і будаўнікі, якія за мізэрную аплату ўзводзілі і ўзводзяць ім дамы, і земляробы, якія даюць ім прадукты харчавання. Дык чаму ж яны не маюць права на нейкую долю?**

Сённяшняга шалёнага каня прыватызацыі, каб не разбіў воз, у якім сядзім, трэба зацугляць разумнымі законамі. А такіх разумных, канкрэтных, прадуманых, эканамічна абгрунтаваных законаў я пакуль не бачу. Прыватызацыя, як вядома, ідзе ў краінах Усходняй Еўропы. Ці ёсць там законы, якія абараняюць і абароняць народ, ягоную нацыянальную і *чалавечую годнасць?* На маю думку, ёсць. Гэта і закон аб грамадзянстве. Лічу яго ці не самым галоўным і проста не ўцямлю, як без яго распачынаць прыватызацыю. Між іншым, гэты закон у некаторых усходнееўрапейскіх краінах дае права на бясплатнае валоданне акцыямі, якія будуць мець усе грамадзяне. Калі ласка, укладвай іх у любое прадпрыемства, выбіраючы па густу, а пасля атрымлівай прыбытак, сваю долю, што ў далейшым, безумоўна, абароніць ад беднасці, ад галечы. Яшчэ пра адзін закон хочацца сказаць. Прадпрыемствы, якія аддаюцца на выкуп, павінны ацэньвацца незалежнымі замежнымі экспертамі. А ў нас ацэнка на вока, як прыйдзецца. Дый там, за мяжою, выкуп прадпрыемства праводзіцца не ў цішы кабінета, а на аўкцыёнах. Ва ўсходнееўрапейскіх краінах ёсць і магутныя прафсаюзы, якія могуць пастаяць за правы рабочых. У Польшчы гэта, напрыклад, «Салідарнасць», якую мы так упарта ганілі.

*Дзіўна і тое, што,* як указвалася мною вышэй, у нас імкнуцца выкупіць звышрэнтабельныя прадпрыемствы. Але ж яны і так прыносяць добры прыбытак. Няхай нашы прадпрымальнікі спярша выкупяць нерэнтабельныя прадпрыемствы. Але ж — не жадаюць.

Хто ж прыме гэтыя ці падобныя ім іншыя законы? Хто ж, проста кажучы, зробіць палюдску? Дзе вы, нацыянальна свядомыя дзеячы?

**Аляксей ЯКІМОВІЧ,**
**член Саюза пісьменнікаў СССР.**
г. Слонім.



Фота А. КЛЕШЧУКА.

# Ці з'ядуць нас «акулы імперыялізму»

АРТЫКУЛ А. Якімовіча ўяўляе несумненную цікавасць. Кажучы так, я маю на ўвазе не эканамічны або сацыёлага - паліталагічны яго бакі. У гэтых адносінах ён, наадварот, можа выклікаць толькі ўсмешку. Ды і дзіўна было б, калі б гэта было інакшай. Усё-такі кожны павінен займацца сваёй справай: шавец — боты шыць, піражнік — пірагі *пячы. А. Якімовіч — не* эканаміст, не сацыёлаг, не палітолаг. Ён — пісьменнік. І, як пісьменнік, сваю частку работы зрабіў прафесійна: выказаў той стан дыскамфортнасці грамадскай свядомасці, які народжаны ломкай складзеных устояў жыцця. Менавіта з гэтага боку, г. зн. як з'ява грамадскай псіхалогіі, артыкул А. Якімовіча заслугоўвае ўвагі.

А. Якімовіча палохае рынак, палохае прыватызацыя, якая «вісіць над намі, як бязлітасны дамоклаў меч». Чытач, схільны да хуткіх абагульненняў, тут жа залічыць аўтара ў катэгорыю *людзей, добра нам вядомых* сваім бясконцым хныканнем і прычытаннямі з нагоды апаганення «прынцыпаў» і «ідэалаў». Залічыць і... памыліцца. На самай справе аўтар ведае цану той сістэмы, у якой рабочыя, сяляне, інтэлігенцыя знаходзіліся і прадаўжаюць знаходзіцца «па сутнасці ў становішчы, блізкім да рабскага». Мне толькі застаецца перакласці гэта агульнае палажэнне аўтара на мову эканамічнай канкрэтыкі. Напрыклад, адна гадзіна працы ў ФРГ каштуе 28 долараў, у Аўстрыі — 26 долараў, у Францыі — 15 долараў, у нас — *усяго толькі* некалькі цэнтаў. Наш работнік атрымлівае ад створанага ім кошту менш за 20 працэнтаў, у капіталістычных краінах — у межах 70—80 працэнтаў. Вось і мяркуйце, дзе на самай справе існуе эксплуатацыя — у іх, «за бугром», ці ў нас, у дзяржаве «сацыялістычнага выбару і камуністычнай перспектывы»?

У чым жа прычына? Пытанне прынцыповае. Бо той альбо іншы адказ на яго дыктуе і стратэгію выхаду са стану рабства. Для аўтара ўвесь корань зла — у страце нацыянальнай самасвядомасці. Менавіта яна нарадзіла, на яго думку, ценявую эканоміку, якая ў сваю чаргу прывяла да развалу гаспадаркі, усеагульнага дэфіцыту і беднасці. Не змяншаючы ні ў якай меры значэння нацыянальнай самасвядомасці для вырашэння *любых, у тым ліку* і чыста эканамічных праблем, я ўсё ж вымушаны канстатаваць: тут аўтар не мае рацыі.

Чытач, думаю, пагодзіцца са мной, ва ўсякім разе, у адным: нават самы нячысты на руку чалавек можа рэалізаваць свае заганныя схільнасці толькі ў тым выпадку, калі для гэтага ёсць адпаведныя ўмовы. Украсці можна толькі тое, што дрэнна ляжыць. А калі гэта так, то ці не відавочна, што і крыніцу ценявой эканомікі, карупцыі трэба шукаць не ў галаве, не ў «сферы духу», а перш за ўсё ў рэальна існуючай сістэме эканамічных адносін, якая часам нават прыстойнага чалавека вымушае парушаць і закон, і нормы маральнасці. Вось аўтар абураецца — і, трэба сказаць, справядліва,— што прадастаўленне прадпрыемствам эканамічнай самастойнасці прывяло толькі да ўзвінчвання цэнаў і падзення аб'ёмаў вытворчасці. А ці ж магло быць інакшай? І ці прычына тут у са-

(Працяг на стар. 12).

**Міхась ТЫЧЫНА**

# ПАКУЛЬ ГАРЫЦЬ СВЕЧКА

## По старонках маладой прозы

У ІНШЫЯ ЧАСЫ размова была б юбілейнай: як-ніяк, серыі «Першая кніга празаіка» спаўняецца 15 гадоў. Аднак сёлета не да юбілеяў. Беларуская літаратура стаіць перад цяжкімі выпрабаваннямі. Яна, пры ўсіх агаворках, з годнасцю выстаяла ва ўмовах падцэнзурнага існавання і захавала жывую душу. Але ці не стане яна ахвярай у жалезных абдымках рынку? Шчодрыя фундатары шматлікіх пашлавата-аляпаватых выданняў ужо вучацца кіраваць бягучай літаратурай з дапамогай грошай. Хто плаціць, той і заказвае музыку. Ды можа стацца так, што і плаціць не будзе каму. У выдаўца без грошай не будзе жадання друкаваць літаратуру вышэйшага гатунку, а ў чытача без грошай увага сама па сабе пераключыцца на хлеб надзённы, і, каб не развучыцца чытаць і неяк забавіць сябе, ён будзе купляць танныя трылеры. Пры ўсім гэтым выбар літаратурай зроблены на карысць творчай свабоды.

У цывілізаваным свеце існуе служба апякунства над маладымі талентамі. Грашавіты і практычны, але адначасова і цікаўны да праяў творчага духу апякун, мецэнат, ён жа першы цаніцель і шчодры выдавец, несумненна, рызыкуе, трацячы грошы на выпуск першай кнігі маладога, нікому не вядомага аўтара. Але ахвяра яго дабравольная і свядомая; як усякая дабрачынная акцыя, яна мае свой сэнс: не ўсё на гэтым свеце прадаецца і не ўсё купляецца! Ёсць белетрыстыка, лёгкі кіч, які абяцае хуткі прыбытак, і ёсць высокае мастацтва, літаратурныя творы для душы, якія па-сапраўднаму можа ацаніць толькі гісторыя. Заадно гісторыя ацэніць і бескарыслівую дзейнасць *мецэната, як гэта ад*бываецца ў наш час з імем Аляксандра Уласава, рэдактара-выдаўца «Нашай Нівы». Трэба спадзявацца, што час і людзі належным чынам ацэняць і дзейнасць паўзабытых выдаўцоў «Жалейкі» Янкі Купалы, «Песень-жальбаў» Якуба Коласа, «Вянка» М. Багдановіча. Рэдкім талентам выдаўца абдарыла прырода і незабыўнага Міхала Дубянецкага: прынамсі, у гады яго дырэктарства ў «Мастацкай літаратуры» названая серыя першых празаічных кніг набыла статус перспектыўнага выдання.

Не кожная першая кніжка сталася падзеяй у літаратуры. Больш таго, не за кожнай першай, як чакалася, ішла другая. Наўрад ці помніць чытач усе 50 імёнаў празаікаў, якім пашчасціла — каму з прадмовай масцітых, а каму і самастойна—выдаць кніжку ў гэтай серыі. Ёсць надзея, што ўсё ж некалькі імёнаў застануцца ў гісторыі літаратуры, а асобныя, магчыма, упрыгожаць яе скрыжалі. Тым больш, што за апошнія два гады ў серыі выходзяць кніжкі, якія вызначаюцца сваёй творчай арыгінальнасцю і дазваляюць гаварыць пра «новую хвалю» ў нашай прозе.

Пры ўсёй шматлікасці імёнаў і твораў, разнастайнасці жыццёвага матэрыялу і мастацкага стылю заўважалася, што ў іх шмат агульнага. Пераважна гэта былі кнігі пра вясковае жыццё, напісаныя ў традыцыйнай манеры бытапісальніцтва. Аўтары гэтых кніг як бы дагаварвалі тое, што яшчэ не было вымаўлена папярэднікамі, пісьменнікамі - шасцідзесятнікамі. Прынамсі, такі быў прынцып адбору да друку — досыць жорсткі і патрабавальны. Механізм яго ўздзеяння, з аднаго боку, яднаў літаратараў, дапамагаючы сумесна супрацьстаяць афіцыёзу ў дазволеных формах, а з другога — выхоўваў своеасаблівы групавы эгаізм, калі міжволі адбываўся падзел на «сваіх» і «чужых» і панавала чорна-белае мысленне. Адыход ад паказу «жыцця ў форме самога жыцця», ад «жыццепадабенства» нярэдка ўспрымаўся як здрада нацыянальнай літаратурнай традыцыі, і «парушальніка» дружна вяртаў на праторaны папярэднікамі шлях, які сяму-таму ўяўляўся адзіным сапраўды беларускім шляхам. Да ўсяго літаратурнае начальства і легіён абслугі, на якіх так ці інакш азіраўся ў нядаўнія часы кожны з пішучых, палохаў самы малы адыход ад «стрыжнявой лініі развіцця літаратуры сацыялістычнага рэалізму», у аснову якой была пакладзена пераважна эпічная традыцыя.

«Крамолай» здавалася тады яркае метафарычнае мысленне В. Гігевіча, аўтара кніжкі «Спелыя яблыкі», які занадта хутка прыняў «правілы гульні»: яго наступныя рэчы, апісальныя і аднalінейныя, успрымаліся ўжо спакойна. Насцярожана аднеслася афіцыйная крытыка і да А. Дударава, які ў кніжцы «Святая птушка» ўзнаўляў беларускае травесці з яго блазнамі і дзівакамі, абапіраючыся пры гэтым на вопыт В. Шукшына. А ў выніку, набыўшы таленавітага драматурга, мы страцілі таленавітага празаіка. Не ўстаяў перад націскам бытапісальніцтва і У. Рубанаў, які ў кніжцы «Вокны без фіранак» адкрыта следаваў лірыка-філасофскай манеры свайго земляка М. Стральцова і ўразіў уменнем ствараць тонкі псіхалагічны малюнак таго, што адбываецца ў душы маладога сучасніка. Вельмі цяжка быць у авангардзе літаратуры, калі навокал бушуе стыхія эпасу, і вось мы ўжо страчваем (беларуская проза страчвае) такога арыгінальнага празаіка, як А. Наварыч, які пад сваім сапраўдным прозвішчам Л. Трушко цяпер піша па-паляшуцку, ствараючы ў сваім рэгіёне традыцыю метафарычнага мыслення, дзе вялікае месца займаюць гратэск і іронія.

На фоне агульнага руху да новай эстэтычнай якасці кнігі С. Крываля «Аднойчы летам» і «Ранішняя дарога», дзе публікуюцца апавяданні Л. Анціпенкі, В. Лапціка, А. Макоўскага, П. Савоські і аповесць П. Рабянка, што выйшлі ў серыі летась, успрымаюцца як далёкае рэха 60—70-х гадоў, калі панаваў эпас. Так, у рэчышчы эпічнай вясковай прозы створаны раманы І. Мележа, В. Адамчыка, І. Пташнікава, І. Чыгрынава, А. Кудраўца, В. Казько, аповесці В. Быкава, В. Карамазава, А. Жука, апавяданні Я. Брыля, А. Масарэнкі, Г. Далідовіча, Я. Сіпакова, дзе выяўлена спроба перавесці нацыянальны змест на мову сусветнай літаратуры. А без гэтых твораў беларускую прозу цяжка ўявіць, як, скажам, рускую без С. Залыгіна, Ф. Абрамава, В. Бялова, В. Распуціна, украінскую без А. Ганчара, Г. Цюцюнніка, малдаўскую без І. Друцэ. Аднак эстэтычны прынцып, як і метал, калі ім доўга ды інтэнсіўна карыстацца, «стамляецца». Барані мяне, Божа, сцвярджаць, што часы «старой прозы» незваротна мінуліся! Любы з нас можа нагадаць: а «Аблава» В. Быкава? А раман В. Адамчыка «Голас крыві брата твайго»? Аднак менавіта пераймальнікі, даводзячы з-за адсутнасці эстэтычнага слыху творчы прынцып да абсурду, вымушаюць думаць пра тупіковасць сітуацыі, пра вычарпанасць сродкаў і падыходаў нашай слаўнай «вясковай прозы».

Аўтары названых першых кніг (і ці не апошніх?), здаецца, свядома ставяць перад сабой просценькую мэту — дапоўніць створаную папярэднікамі карціну за кошт новых эпізодаў і падрабязнасцей вясковага жыцця. Тады, калі гэтыя празаікі ідуць ад эмпірычнага факта, а не паўтараюць літаратурныя шаблоны, іх творы чытаюцца. Як чытаюцца, напрыклад, апавяданні С. Крываля «Пагарэльцы», «Латарэйны білет», «Сенька-інвалід», «Памагаты», «Бяздзетуха», заснаваныя на анекдатычных выпадках з пасляваеннага побыту заходнебеларускай вёскі. Да ўсяго тут мы сустракаем каларытныя тыпы вяскоўцаў, псіхіка якіх моцна дэфармавана за часы існавання ў татальнай сістэме прыгнёту і знявагі чалавечай асобы. Падобнае бачым і ў апавяданнях В. Лапціка «Знахарка», «Дзіця вады», «Шукае душа спагады», А. Макоўскага «Старое котлішча», «Вечар на прыродзе», у аповесці П. Рабянка «Дарога ў пяць гадоў». Хіба толькі з агаворкай, што ў гэтых празаікаў большая схільнасць да лірызму (П. Савоська імкнецца да псіхалагічнай распрацоўкі характараў людзей, якія каранямі трымаюцца за вёску, але жывуць ужо іншымі інтарэсамі).

Папярэднікі — вядома, кожны па-свойму — ішлі ўсё ж ад жыцця. А іх аднагодкі, якія прыпазніліся з дэбютам, змушаны ўжо, падобна, шукаць прыдатную літаратурную рамачку, каб уставіць у яе яшчэ адну копію вядомых сюжэтаў і тыпажу (як гэта робяць сёння «вулічныя мастакі», што прадаюць свае вырабы каля мастацкага салона). У выніку пазітыўная *ідэя аб самабытнасці* беларускай душы утрыруецца да лабавога супрацьстаўлення вёскі гораду (у апавяданнях С. Крываля «Аднойчы летам», у «гарадскіх» апавяданнях іншых аўтараў). Лірычны герой названага апавядання, пісьменнік, *які «агучвае» падзеі ў род*най вёсцы, разважае глыбакадумна: «Ён паспрабаваў падпаліць свой факел ад агню сусветнай думкі, вярнуўся сюды, каб асвятліць тут і сабе і другім усе куткі і шчыліны жыцця. Ён прачытаў...» І далей ідзе пералік — ад старажытных грэкаў да І. Буніна. Словы засталіся словамі, а вось учынкі выявілі зусім нерамантычную натуру Рамана: з любоўнага рандэву са сваёй каханай ён збег, «родны кут», які збіраўся асвятліць факелам, падпаленым «ад вялікага агню сусветнага мастацтва», занядбаў, як толькі зразумеў, што той вяжа яму крылы творчасці. Так у гэтым і іншых творах нашых «маладых празаікаў» зноў узнікае антытэза маральнай чысціні, уласцівай нібыта толькі вяскоўцам, і гарадскога дабрабыту, якая, на мой погляд, моцна затуманьвае наш зрок і перакошвае рэальную карціну рэчаіснасці.

СТЭРЭАТЫПЫ сацыялагізаванага мыслення, замешанага на абагаўленні калектыву, вясковай грамады як найвышэйшай інстанцыі ў вырашэнні ўсіх — ад эканамічных да духоўных—праблем, прысутнічаюць і ў апавяданні «Рэнтген» Л. Неўдаха, аўтара кнігі «Формула дабрыні». Вось як разважае яго герой: «А было б добра, думаў ён, калі б не адпусціў дачку ў горад: працавала б яна ў вёсцы, жыла б пры боку ў маці з бацькам, замуж выйшла б тут, і было б на душы ў яго, Адама Пятровіча, цяпер спакойна». Умоўны лад якраз і выдае беспрадметную летуценнасць і адарванасць ад рэалій жыцця і героя, і аўтара: працавала б, жыла б, выйшла б, было б... Наогул стыль нярэдка падводзіць празаіка. Вось іншы выпадак, калі рэакцыя героя ўжо не ціхамірная разважлівасць, а перабольшаная экспрэсіўнасць у адносінах да тых жа дзяцей (апавяданне «Машына»): «У Данілы Лукіча пякуча разбалелася нага, якую пакалечыла яму пад Варшавай», «Былы кулямётчык Даніла Лукіч Дубок наліўся гневам».

Так, адносіны бацькоў і дзяцей — праблема сямейная. Але вырашэнне яе выходзіць за межы звыклага: пасварыліся — паміраюцца. Яна звязана з іншымі праблемамі, такімі, як сувязь вёскі і горада, мінулага і сучаснасці, так званага класавага грамадства і цывілізаванага чалавецтва і г. д. Той жа Л. Неўдах у аповесці «Мяжа магчымага» спрабуе паставіць «малыя ўчынкі» герояў у залежнасць ад «вялікіх прычын». Сапраўды, хто вінаваты ў тым, што на нафтаперапрацоўчым заводзе адбылася аварыя: брыгадзір Карнілаў, сумленны, але занадта паблажлівы да свайго начальства, якое дбае адно пра план і заробак, ці сістэма, якая змушае чалавека да згодніцтва, паказухі, падману? Іншая справа, што размова ў аповесці абмяжоўваецца толькі гнеўнымі філіпікамі героя ў адрас прагнілай сістэмы: пасля Чарнобыля, калі ступень грамадскай самасвядомасці прыкметна ўзрасла, патрэбна канкрэтная размова, пастаўленая на гістарычны грунт. Асабліва ж патрэбна ў мастацкім творы.

У маладых добра відаць, як трацяць сваю свежасць і навізну жыццёвыя назіранні аўтара і як бярэ верх літаратурная традыцыя, апрабаваная папярэднікамі форма. Лёгка пазнаюцца знаёмыя сюжэтныя хады — быкаўскага «Знаку бяды» ў «Знаку памяці» С. Крываля, «Дарогі ў два канцы» Я. Лецкі ў «Дарозе ў пяць гадоў» П. Рабянка. Звыклыя ўяўленні аб жыцці ўплываюць на творчы працэс мацней, чым нядобрай памяці цэнзура. Аўтары твораў пра беларускую вёску і беларускую рэчаіснасць не спраўляюцца нават са сваёй непасрэднай задачай бытапісання народнага жыцця. У поглядзе *на сапраўдную рэальнасць яны* часта выглядаюць папярэднікамі, скажам, Янкі Купалы, які пісаў: «У вёсцы, так кажуць, жыве люд шчасліва, Зжываецца з горам, і з працай, і з нівай; У вёсцы у ціхай люд, кажуць, менш грэшыць, Пакусаў менш *мае, малым сябе цешыць*, І сцэнаў крывавых менш нойдзеш у вёсцы. Ну, праўда ж, як грушы растуць на бярозцы!»

Каму як не пісьменніку ведаць, што сапраўды адбываецца ў жыцці! Ведае ён і тое, як нялёгка данесці гэту праўду да чытача: занадта шмат пасрэднікаў і зацікаўленых, «мыслящих по-государственному» асоб стаіць паміж аўтарам і чытачом! Асабліва іх шмат у тэатры, кіно, тэлебачанні. Д. Падбярэзскі, вядомы музычны аглядальнік Беларускага тэлебачання, з добрым веданнем справы і дасціпна апавядае пра тое, як адбываецца гэты «творчы працэс» увасаблення жыцця ў літаратуру. А адбываецца тое самае, што і ў афіцыйнай статыстыцы, калі план выкананы і перавыкананы, але на паліцах пуста. Малады герой аповесці «Праўкі да сцэнарыя на бытавыя тэмы», кінасцэнарыст Сяргей, які пастаўляў рэжысёрам на студыі тэксты і жыў без пакутаў сумлення, урэшце засвоіў горкі ўрок: «Пісаў не жыццё, а яго ізлажэнне. Пісаў па падказцы, дзе словы чужыя...» І ён вырашыў «пратэставаць супраць зададзенасці сітуацыі», пачаўшы з вяртання да сябе ранейшага, якім быў у гады юнацтва, — закаханага маладога чалавека, які пісаў наіўныя, але шчырыя вершы і з годнасцю стаяў перад сваім векам. Тры розныя сцэнарыі яго сустрэчы з каханай дзяўчынай нараджаюцца ў яго «кіношнай» свядомасці: «ружовы», «чорны» і «праўдзівы». Аповесць Д. Падбярэзскага датуецца 1977—1986 гадамі — адрэзак часу, за які наша літаратура прайшла шлях ад ідэалізаванага паказу жыцця да праўдзівага. За які, урэшце, можна праверыць і свае пачуцці, і свае погляды.

Некаторыя фармальныя прыёмы, у прыватнасці, вершы-застаўкі ў пачатку і ў канцы твора, якія ўжывае Д. Падбярэзскі, выклікаюць у памяці паралелі з прозай М. Стральцова. А М. Стральцоў ведаў цану традыцыйных і сучасных сродкаў узнаўлення рэчаіснасці ў літаратуры, умеў спалучыць іх у адно жывое цэлае і данесці да чытача водар і колеры беларускай рэальнасці. Д. Падбярэзскі таксама, як і М. Стральцоў, лірык, і яго творы з кнігі «Уверцюра» (паказальная назва!) будуюцца па музычных законах, з той, аднак, розніцай, што Д. Падбярэзскі — вялікі фантазёр і адносіцца да жыццёвага матэрыялу, як дойлід да гліны, з якой можна ляпіць і рэальныя фігуркі, і рамантычныя сімвалы, і дагератыпныя маскі пачвараў. Можна ўсё ж зразумець, што жанр фізіялагічнага нарыса, з яго схільнасцю да паказу «чарнухі» і «гарадскога дна», літаратурнай багемы і сацыяльных «адкідаў», чужы гэтаму арыгінальнаму празаіку. Яго захапляе ў літаратуры не здольнасць **адлюстроўваць** рэальнасць, а магчымасць **вынаходзіць** новую, фантастычную рэальнасць, у якой нашы надзённыя праблемы выяўляюцца ў алегарычнай форме. Ён не прэтэндуе на псіхалагічную адпаведнасць вобразаў жыццю і стварае сваю мадэль гэтага жыцця, у якой спалучаюцца, з аднаго боку, фантастыка, а з другога — дэтэктыў (апавяданні «НЛА з Пуцькава», «Апошняя квадра», «Я цябе ведаю!»). Не, Д. Падбярэзскі не пераносіць зямныя праблемы на іншыя планеты — у абстрагаваных вобразах Яго і Яе або Майлза і Гарнэра ўгадваюцца рэальныя феномены нашага духу, які пакутуе ў пошуках сэнсу існавання. Так ма*лады празаік* імкнецца ўзняць «нізкія» жанры да «высокіх», а «масавае» мастацтва спалучыць з «элітарным». Што ж, магчыма, гэта адзін з перспектыўных шляхоў нашай прозы, перад якой стаіць складаная задача не толькі заваёўваць вяршыні духу, *але і прыцягваць* увагу шырокага чытача.

ЗВЫЧАЙНА, першая кніга яскрава выяўляе вектар творчага пошуку маладога аўтара. У Д. Падбярэзскага і ў А. Асташонка, аўтара кнігі «Фарбы душы», напрыклад, заўважаецца момант павароту ад прозы «традыцыйнай» да «новай прозы», што рэцэнзентамі можа ўспрымацца як прыкмета шырыні творчага дыяпазону празаікаў. Дарэчы, апошнія публікацыі А. Асташонка паказваюць, што ён усё больш надзейна намацвае сваю сцяжыну ў прозе і выпрацоўвае ўласны стыль. Сляды творчай вучобы ў папярэднікаў вельмі прыкметныя ў яго аповесці «Малюнкі на попеле» і апавяданні «Вяртанне» — стральцоўская проза і тут выявіла сваю прыцягальную сілу і творчае ўздзеянне. Ужо сама гэта арыентацыя на мастацкасць і інтэлектуальную змястоўнасць варта ўсялякай падтрымкі, калі помніць пры гэ*тым, як шмат у нас кан'юнктур*шчыны і непрафесіяналізму ў літаратуры.

Напісаная ў звыклай жыццеапісальнай манеры аповесць А. Асташонка «Малюнкі на попеле» ўсё ж выяўляе змену пункту погляду на знаёмы жыццёвы матэрыял. Гэта ўжо мастацкае апавяданне пра дзяцей і ўнукаў стральцоўскага дзеда Міхала з іх праблемамі, народжанымі дзесяцігоддзямі духоўнага застою, з іншым гістарычным вопытам. З аднаго боку, герой твора, кінакрытык Слава, цвяроза разумее, што яго бацька пражыў жыццё, але так і не стаў асобай, а з другога — шкадуе яго як чалавека, у якім дачасна згасла моцартаўскае. Ён спрабуе асэнсаваць бацькава і ўласнае жыццё і такім чынам уздымаецца над падзеямі, *над самім сабой*. Патрэбен быў моцны штуршок звонку, каб ён нарэшце ачнуўся ад духоўнай спячкі: смерць бацькі вымусіла яго перагледзець уласныя прынцыпы. Лірычны роздум героя, пакуты яго духу прыкметна паглыбляюць адналінейнае рэчышча хранікальнага сюжэта, узмацняюць настраёвасць гэтай мастацкай рэчы А. Асташонка. Дарэчы, лірычныя мініяцюры «Фарбы душы» і «Роспач», у якіх відаць усе прыкметы эсэ і элемент прыпавесці, вылучаюцца ўменнем стварыць паэтычны настрой і вывесці чытача на глыбіні філасафічнага роздуму праз сітуацыю, у якой мы знаходзімся. Гэты распаўсюджаны ў апошні час жанр (А. Разанаў, У. Арлоў, І. Бабкоў) таксама сведчыць не толькі аб імкненні новага пакалення літаратараў да змястоўнай сціласці і вобразнай пераканаўчасці, але і аб абнаўленні нашай прозы. Рафініраванае мысленне прываблівае інтэлектуальнага чытача, які колькасна складае не адзінкі — культурнае асяроддзе ў гады таго ж застою ўмацоўвалася і пашыралася. Так нараджаецца новы від прыгожага пісьменства.

Заслугаю А. Асташонка, А. Глобуса, У. Сцяпана, А. Федарэнкі (у іх таксама выйшлі кнігі ў дадзенай серыі) з'яўляецца тое, што яны адкрываюць перад чытачом дзверы ў раней зачынены пакой нашай рэчаіснасці. Адны бачаць у гэтым літаратурным накірунку «чорны гумар», «кухонны рэалізм», «фізіялагічны партрэт сучасных нораваў» і ў пэўным сэнсе маюць рацыю: *маладыя празаікі*, адкідваючы ўсякае маралізатарства, проста прапануюць нам фрагменты жыцця, якія папярэднікі не заўважалі або лічылі не вартымі пісьменніцкага пяра, і даюць магчымасць убачыць свет у яго сапраўдным выглядзе. Тут яны часам трацяць пачуццё меры і нагрувашчваюць жахі, дэталізуюць без патрэбы розныя фізіялагічныя спражненні, якія прыгожае пісьменства цнатліва не заўважае і абыходзіць зводдаль, натура ў іх творах, бывае, адцясняе домысел і выводзіць чытача за межы эстэтыкі. Але як адшукаць меру ў гэтым свеце парадоксаў і абсурду? Можа, толькі шок ад убачанага і пачутага і здольны ўзрушыць сонную свядомасць сучасніка, які, прачнуўшыся, убачыў, як далёка адстаў ён ад чалавечай цывілізацыі і ў якім духоўным тупіку знаходзіцца? Сусветнае зло перарасло ўсе магчымыя межы і вось-вось пазбавіць усіх нас разам сэнсу існавання, а літаратуру, адабраўшы ў яе паэтычны і гуманны стрыжань, прынізіць да кіча, коміксаў і танных трылераў. Як супрацьстаяць гэтай навале?

Другія ўспрымаюць прозу названых аўтараў (таксама і іншых) як беларускі авангард, што ўзнік на фоне «традыцыйнай» літаратуры і з'яўляецца рэакцыяй на афіцыйна дазволеную мастацкую вытворчасць. Але ж супрацьлегласці ўзаемазвязаны не толькі ў матэматыцы, фізіцы і філасофіі! Нашы авангардысты адмаўляюць палітызацыю літаратуры і такую яе якасць, як публіцыстычнасць, адкрытую ангажаванасць, аддаючы перавагу аб'ектывізаванай прозе, дзе аўтар выконвае функцыю хіба толькі экскурсавода ў музеі-паноптыкуме сучаснай звыродлівай рэчаіснасці. Аднак менавіта сацыяльнасць гэтай прозы і яе востры крытыцызм у дачыненні да аджылых грамадскіх структур і выклікалі негатыўную рэакцыю літаратурнага начальства, якая зводзілася спачатку да спробы забараніць гэту прозу, замаўчаць, навесіць на яе ярлык экстрэмісцкай. Цяжка ішло ў друк апавяданне А. Асташонка «Супер», дзе выведзены тып сучаснага «звышчалавека», не адразу знайшлі сваю прэсу і творы, выдадзеныя ў зборніках А. Глобуса «Адзінота на стадыёне», У. Сцяпана «Вежа», А. Федарэнкі «Гісторыя хваробы». Праўда, цяпер адбываецца адваротны працэс, калі адны і тыя ж творы друкуюцца амаль адначасова ў раўнацэнных выданнях, перадрукоўваюцца ледзь не цалкам кнігі («Гісторыя хваробы» А. Федарэнкі, дарэчы, як і «Вежа» У. Сцяпана, толькі пад другой назвай, выйшаўшы ў «Першай кнізе празаіка», амаль уся паўтараецца ў «Бібліятэцы часопіса «Маладосць»). Вядома, і наклады, і ганарары малыя, але ж...

У ПРАЗАІКАЎ «другой хвалі» шмат агульнага. Яны скептычна адносяцца да так званых «грамадскіх ідэалаў», «сацыялістычнага выбару», «камуністычнай перспектывы», з якімі, скажам, маё пакаленне, мусіць, і памрэ. Гэты скепсіс часам нагадвае гульню і своеасаблівы спектакль для недасведчаных. І ўсё ж размова ідзе аб сур'ёзных рэчах. Героі гэтых аўтараў асацыяльныя ўжо па сваім статусе, па прафесіі. Яны, што называецца, існуюць на «абочыне» грамадства, па-за «сацыялістычным калектывам». Гэта мастакі ў майстэрнях дзе-небудзь на гарышчы ці ў падвале з іх спецыфічна багемным ладам бытавання, бадзягі-бомжы без пэўнага занятку, дзівакі, якія палохаюць абывацеля сваімі алагічнымі ўчынкамі, мікрараёнскія жлабы, што з усяе сілы стараюцца падладзіцца пад сістэму, у якой пануе двайная мараль, нейкія змрочныя, сексуальна заклапочаныя істоты на дзвюх нагах, што сцвярджаюць сябе *ў сферы, дзе напрацаваная чалавецтвам культура* пры пэўных умовах лёгка саступае месца голай фізіялогіі.

Герой апавядання А. Глобуса «Слон» штовечара старанна выбудоўвае ў сваім двары з featureрознага ламачча і жалеззя нешта падобнае на слана ці маманта і пільна назірае за тым, як дворнік раніцай, злуючыся і клянучы хуліганнё, руйнуе яго збудаванне. Выхаванае ў ім грамадствам лёгка саступае месца ірацыянальнаму, невытлумачальнаму, «цёмнаму»: «Чаму робіш «слана»? Чаму чалавек вядзе пруцікам па штыкетніку? Чаму падбівае нагой парожнюю бляшанку?» Перад намі «голы чалавек», неандэрталец: «Пад чэрапам варушацца думкі. Дзе глупства, а дзе разумнае, адрозніць немагчыма». Істота з аблiччам чалавека, пазбаўленая ўсякай духоўнасці ў маралі,— вось ён, злавесны плод 70-гадовай прапаведзі аб выхаванні «новага чалавека». Вы не хочаце ведаць і чуць пра яго? З жахам уяўляеце, што ваша дачка можа сустрэцца з такім? Не заплюшчвайце вочы! Ён ёсць! І не толькі ў хваравітым уяўленні «новых празаікаў». Спадзявайцеся на тое, што ў ім яшчэ тлее нешта чалавечае: «Не хвалях адзіноты гойдаецца папяровым караблікам душа».

Так, героі А. Глобуса, А. Асташонка, У. Сцяпана, А. Федарэнкі не ўпісваюцца ў грамадства, у якім мы жывём. Усе іх амбіцыі скіраваны выключна на сваю унікальную асобу. Свет, у іх уяўленні, гэта сцены з чатырох бакоў: «І туды сцяна, і сюды сцяна-а-а...» Горш таго — глухая сцяна, «бясконцая, шэрая, атынкаваная, шурпатая, халодная, няўежная», у самой душы. Большасць «традыцыйных» герояў у гэтых умовах, азіраючыся адно на аднаго, прыстасоўваліся і неяк існавалі, плодзячы сабе падобных. Героі «новых празаікаў» робяць усё «наадварот»: ход іх думак цяжка ўгадаць, а ўчынкі парадаксальныя. Паралелі з астатнім светам абражаюць іх: «Калі ўважліва сачу за іншымі, чамусьці забываю сябе. І зусім нечакана ўсведамляю, што нешта непатрэбнае раблю. Вось і цяпер гэты ліст з вярбы ем». Адзінота і адчужэнне гэтых герояў такія, што страшна робіцца за жыццё, якое ідзе сабе паводле адвечных законаў: «Рукі робяць абы-што. Яны ломяць адна адну, каб праз фізічную пакуту зварухнуць духоўную моц. А душа застаецца нерухомай...»

Немагчымасць устанавіць кантакт са знешнім светам, гарманізаваць свае адносіны з іншымі людзьмі, знайсці душэўны водгук у родным чалавечку даводзіць студэнта Вяргейчыка з аповесці А. Федарэнкі «Гісторыя хваробы» да самазабойства. Так, Вяргейчык асуджаны на неразуменне. Але ж ён і сам сябе не здольны зразумець. Захоплены ідэяй нацыянальнадухоўнага адраджэння, шчыры і сумленны юнак, здольны натхніць сваёй мэтанакіраванасцю іншых, спатыкаецца, здаецца, на самым элементарным — на праблеме полавых узаемаадносін з каханай. Фрэйдысцкі «комплекс непаўнацэннасці» («Чаму яму можна, а мне — не?»), калі істотна засяроджваецца на адным «пункціку» і не бачыць *шляху да вырашэння* дылемы, імкліва руйнуе асобу, даводзіць да дэградацыі ўсе пачуцці, ахутвае свядомасць непранікальнай цемрай і глухатой. Спачуванне сяброў, імкненне каханай зразумець яго душэўны стан, бяссільныя перад нечым такім, што не мае назвы. Так, гэта хвароба. Хвароба духу, загнанага ў тупік. Гэта як кара за першародных грэх продкаў — герой здольны акупіць яго толькі цаной уласнага жыцця. На жаль, гэта кара, як сведчыць бясстрасная статыстыка, сёння спасцігае не толькі дарослых людзей, якія здольны свядома рабіць свой выбар, але і падлеткаў, якія ў цяжкі міг не знаходзяць патрэбнага разумення і душэўнага водгуку.

Ці закранала наша літаратура гэтыя бакі жыцця? Ці былі ў ёй калі-небудзь падобныя героі? Ці, можа, гэта унікальны стан цяперашняга пакалення? У 20-я гады і М. Гарэцкі, і М. Зарэцкі, і К. Чорны адважна звярталіся да мастацкага асэнсавання «цёмных» сфераў паслярэвалюцыйнай рэчаіснасці. Рэвалюцыя, якую *нездарма нашы* паэты так часта параўноўвалі з бурай, узварушыла ўсе пласты жыцця, зруйнавала існуючую сацыяльную іерархію, змясціла ўсе «ўзроўні» духоўнага быцця, адмяніла хрысціянскія маральныя прынцыпы, усе тыя дзесяць запаведзяў, на якіх трымаўся сотні гадоў свет. Гэтых пісьменнікаў папракалі ў «натуралізме», «біялагізме», «фрэйдызме» і г. д. А мы сёння здзіўляемся той адвазе, з якой маладая беларуская літаратура кінулася ў небяспечнае плаванне па бурным моры чалавечага жыцця. Сённяшнія маладыя шмат у чым арыентуюцца на забытыя нашай літаратурай нацыянальныя традыцыі ў даследаванні чалавека, якія бяруць пачатак часткова ў «нашаніўскай» прозе, больш у «псіхалагічнай» прозе сярэдзіны 20-х гадоў, а таксама ў літаратуры сусветнага авангарду. Не буду праводзіць небяспечныя паралелі паміж класікай і тымі, хто толькі пачынае свой шлях у літаратурнай творчасці, але адзначу, што тут адкрываецца яшчэ адзін магчымы напрамак развіцця нашай прозы.

Прызнаюся, што і мяне шмат што насцярожвае ў празаічных творах «новай хвалі» пісьменнікаў, многае проста палохае і здаецца мала зразумелым. І мне хацелася б, каб узнятая ў іх творах на паверхню «натура» нашага жыцця была асветлена не толькі іроніяй і сарказмам, якія вельмі прыкметныя ў апавяданнях названых аўтараў, але і святлом таго самага «грамадскага ідэалу», да якога яны ўсе так крытычна адносяцца. К. Маркс праў: «Падвяргай усё сумненню». Развітвайся смеючыся з жахлівым мінулым. Выкрывай хлуслівасць прапагандысцкіх лозунгаў. Іранізуй над «высокімі» словамі, якія абясцэнілі «дрэнныя камуністы». Не «гавары прыгожа». І ўсё ж пакінь месца для Надзеі, Веры, Любові — *паняццяў*, вядома ж, устарэлых, несучасных, але бескарыслівых, бяскрыўдных, занадта абстрактных, каб зважаць усур'ёз на іх: а раптам яны выведуць нас на светлы шлях духоўнага адраджэння нацыі? Выказваю гэта пажаданне, бо і *ў творах маладых празаікаў* адчуваю прысутнасць паэтычных адносін да свету, хоць і глыбока схаваных за тэатральным дзействам герояў-блазнаў, хітруноў, пярэваратняў, насмешнікаў.

Інтанацыі лірычнай прозы, пазначанай імёнамі М. Стральцова, В. Адамчыка, І. Чыгрынава, І. Пташнікава, Б. Сачанкі, А. Кудраўца, Я. Сіпакова (калі мець на ўвазе апавяданні гэтых пісьменнікаў), чуюцца ў апавяданні А. Глобуса «Койданава»: «Мне сніцца Койданава... Вось ідзе па вуліцы цётка Пэля. Гэта менавіта тая Пэля...» Асабліва моцныя яны ў кнізе «Вежа» У. Сцяпана, апавяданні якога, па сутнасці, і трымаюцца на паэтычнай настраёвасці фрагментаў рэчаіснасці, накіданых рэзкімі, прамымі, плакатнымі штрыхамі. А самае галоўнае — у яго сціслых, нешматслоўных эцюдах заўсёды знаходзіцца месца для шчымлівага жалю да адзінокіх, няшчасных, убогіх, прыгаломшаных бедамі герояў, што не па сваёй волі выламаліся з прывычнага асяроддзя і не могуць адшукаць свайго месца ў свеце. Нездарма ў свядомасці аднаго з іх узнікае вобраз міфічнага Сізіфа, асуджанага на ўсё жыццё ўскочваць на высокую гару вялізны камень. Чым ён прагнявіў Бога? За што пакараны? За што мы пакараны? Гэта аб'ектыўная рэальнасць, і трэба яе ўспрымаць як ёсць. І каціць, каціць свой камень угору.

ТАК, МАЛАДЫЯ ПРАЗАІКІ скептычна адносяцца да ўсялякага роду «ідэй». Аднак адна з многіх сённяшніх ідэй, што захапіла ў кола свайго ўздзеяння людскую масу, успрымаецца імі ўсур'ёз, выклікаючы патаемнае спадзяванне на змены. Найбольш адкрыта выказваецца яна ў аповесці А. Федарэнкі «Гісторыя хваробы». Гэта думка пра нацыянальнае адраджэнне Беларусі, роднай мовы, культуры, літаратуры. Яна ў розных варыянтах і з рознай сілай гучыць на старонках аповесці, ускосна тлумачачы псіхалагічны стан галоўнага героя і ў гэтым сэнсе выклікаючы асацыяцыі з «Меланхоліяй» М. Гарэцкага. Нездарма Вяргейчык, шукаючы выхад з тупіковай сітуацыі, у якой апынуўся, раптам агаворваецца: «Як добра было б жыць у дваццатыя гады...» Так, менавіта ў 20-я, калі духоўнае развіццё нацыі ішло крута па экспаненце ўверх і калі ў душах беларусаў жыла Надзея.

Мы, аднак, жывём у 90-я гады, у зусім іншых умовах, якім няма аналагаў у гісторыі. Нацыянальнае Адраджэнне сёння робіць свой трэці віток. Ці зможам мы пазбегнуць памылак, вольных і міжвольных, сваіх папярэднікаў? Нарабіўшы пры гэтым сваіх — спадзяёмся, што не такіх трагічных. Пакуль ёсць надзея, датуль будзем трываць.

Некалі шляхціц Завальня ў *завею заўсёды ставіў на падаконніку* свечку, каб той, хто блукае, збіўшыся з дарогі, мог выйсці да людзей...

## КНІГАПІС



У. РУБАНАЎ. Пахі адталай зямлі. Аповесці, апавяданні. На рускай мове. М., «Советский писатель», 1990.

**«Пахі адталай зямлі» — першая кніга Уладзіслава Рубанава, выдадзеная на рускай мове (аўтарызаваны пераклад з беларускай У. Бжазоўскага). Яна дае даволі поўнае ўяўленне аб творчасці пісьменніка, паколькі змест зборніка склалі аповесці і апавяданні, што сведчаць аб самабытнасці аўтара, яго схільнасці да псіхалагічнай заглыбленасці ў характары герояў.**




М МЯТЛІЦКІ. Няправільныя санкі. Вершы. Мн., «Юнацтва», 1990.

**Мікола Мятліцкі на гэты раз выступае ў крыху нязвыклай для яго ролі — дзіцячага пісьменніка. Хаця чаму ў нязвыклай? Вершы паэта, што змяшчаліся на старонках часопіса «Вясёлка» і ў іншых выданнях, доказ таго, што ён добра ведае псіхалогію маленькіх, умее для іх пісаць гэтаксама таленавіта, як і для дарослых. Дзе з развагай, дзе з досціпам, а то і з усмешкай. У гэтым можна пераканацца, калі пазнаёмішся з яго першай дзіцячай кніжкай «Няправільныя санкі».**




Э. АГНЯЦВЕТ. Я слухаю лета. Вершы. На рускай мове. М., «Малыш», 1990.

**У перакладах Юрыя Кушака і Ігара Мазніна прыйшлі да юных чытачоў краіны новыя вершы Эдзі Агняцвет. Беларускія дзеткі з імі ўжо добра знаёмы. Паэтэса шчыра, лірычна-пранікнёна расказвае пра тое, чым жывуць хлопчыкі і дзяўчынкі, знаёміць іх з навакольным светам, адкрывае ім хараство прыроды.**




Я. МАЎР. У краіне райскай птушкі. Амок. Мн., «Юнацтва», 1990.

**«Бібліятэку прыгод і фантастыкі», якую выпускае выдавецтва «Юнацтва», *папоўнілі* два найбольш значныя творы Янкі Маўра. Пераклад на рускую мову У. Жыжэнкі і А. Міронава.**

## Мікола ПРАКАПОВІЧ



●

Мой выток і мой апошні вырай,
прыпяцкія неруш-берагі,
дайце сілы быць да донца шчырым
у краіне восеньскай тугі;
дайце крылы, каб світанкам стылым
надзівіцца барвамі зямлі.
Вераю жыццё не абдзяліла —
вернасцю сяброўскай надзялі;
самым чыстым і галоўным словам
адгукніся ў стомленай душы,
у бядзе нязнанай, страшнай, новай
мне перамагчы дапамажы,—
каб глядзець сумленнымі вачыма
ў дзень наступны.
У імя Айца...
Дай, Айчына, мне адну магчымасць —
быць з табою побач.
Да канца.

●

*«Я хацеў бы спаткацца з Вамі...»*
Максім БАГДАНОВІЧ.

Як чакаў Ты гэтае сустрэчы!..

Цокат капытоў расколе вечар,
з Вострай Брамы — на радзінны сход —
збройны вершнік свой гукне народ.
І прачнуцца хаты і палацы,
каб, нарэшце, змог сабой назвацца
гэты занядбаны лёсам край...

Дзе ты, воля! — выйдзі, пагукай...
Анямелі без званоў званіцы,
спарахнелі цэрквы без крыжоў,—
ні пакаяцца, ні памаліцца
і ні прычасціцца больш ужо.
Абяцанкамі па горла сыты,
пакарміўшы лагерных вашэй,
твой народ дапяўся да карыта,—
зорак не пабачыць з-за вушэй.
З моваю сярэдне-афігеннай,
з марай — уварваць пабольшы куш,
назапашвае бязвер'е ў генах
і бяспамяцтва — у торбах душ.
Тупа назірае за сынамі,
што нібыта ў вір — у белы свет...

Ці захочацца спаткацца з намі!
Ці пазнаеш свой народ, Паэт!

●

Б'емся, як рыба аб лёд,
Бязмоўны натоўп харошым...—
Раскручвае калаўрот
Змяінае слова — грошы.

І нельга далей трываць
Ад навалачы і хамства.
Куляецца трын-трава
Нашым бязмежным ханствам.

Сябры мае, што казаць —
Прыхілімся да Айчыны
З чыстымі, як сляза,
Душамі і вачыма.
Далоні дзядзінных стрэх
Крылата ўзмахнуць над стромай,
Адзіны на свеце грэх —
Здрадзіць сабе самому.

●

Нікому не патрэбен — ну, нарэшце...
Нікому не патрэбен! — горкі сон!
Знямелі недапісаныя вершы,
Маўчыць яшчэ гарачы тэлефон.

Дыміцца ў кубку сонная гарбата.
Адчай слязою на вачах даспеў...
А памяць падрахуе злыднявата:
— Чаго раскіс! — ты ж гэтага хацеў!

Ты прагнуў цішыні — адно дажджынкі
Запознена і золка ў шыбы б'юць.
Такія, браце, сумныя дажынкі —
Гняздо самоты ў поцемках снуюць.

Быў гулкім шлях — сышоў на бездарожжа,
І голас твой зняверыўся і змоўк...

А хто яшчэ Радзіме дапаможа,
Калі ты сам дапамагчы не змог!

---



*Іван Навуменка*

# Пенсіянеры мясцовага значэння

*апавяданне*

Бухман ніколі не думаў, што будзе гэтак хвалявацца. Ён спыніў «Жыгулі», затым вылез з машыны перад будынкам райкома партыі, аддзеленым ад вуліцы прысадамі старых акацый. Побач з райкомам стаіць доўгі, пафарбаваны ў зялёны колер, магазін, вельмі падобны да таго, які стаяў на гэтым жа месцы да вайны: два ганкі, дзве зусім самастойныя гандлёвыя ўстановы. З правага боку — харчовыя, з левага — прамысловыя тавары.

У тыя гады, калі хворы на сухоты, дэмабілізаваны з арміі Бухман працаваў у райкоме, магазіна не было: згарэў у вайну. І вось нібы выплыў з казкі кавалачак Бухманавага дзяцінства і няспелага, з першым пушком на губах юнацтва. На вялікім перапынку яны, шкаляры, шасталі ў гэты магазін. Булачка, якіх пяклі штук па дваццаць на адной патэльні і якія трэба было адну ад другой адламваць, каштавала трыццаць шэсць капеек. Выдатныя былі тыя булачкі дзяцінства: мяккія, пульхныя, ледзьледзь саладкаватыя. Але не заўсёды меліся ў кішэні адпаведныя капіталы. Таму часцей Бухман абыходзіўся проста хлебам. Купляў дзвесце грамаў рублёвага хлеба — наздраватага, смачнага, добра выпечанага, і яшчэ — цукерку. Асалода была не меншая, чым ад булачкі, а па цане — танней.

Бухман з хваляваннем аглядваецца. Драўляныя, раскіданыя, падобны на вёску гарадок бадай што не змяніўся. Ва ўсякім выпадку з таго не такога ўжо далёкага часу, калі Бухман сюды прыязджаў. Раён ліквідавалі, кіраўнічых устаноў няма. Хто размяшчаецца ў будынку райкома партыі, Бухман не ведае. А вось у памяшканні райкома камсамола ўваход цяпер з другога боку і шыльда другая: «Гасцініца».

Здаецца, прыбавілася магазінаў, крамак. Разросся як лес тапаліны парк, які яны, школьнікі, за год ці два да вайны насадзілі на гаку былога базара — голага як бубен і засыпанага — ногі правальваліся — жоўта-шэрым пяскам.

Цяпер восень, канец верасня, тапалінае лісце ападае, шасціць пад нагамі. Праз парадзелую, залаціста-жаўтаватую навісь дрэў праглядвае іхняя двухпавярховая школа, некалі самы відны ў гарадку будынак. Паблякла і як бы асела школа. У гарадку ёсць другая, трохпавярховая, а ў гэтай нібыта нейкі інтэрнат.

Галоўная вуліца замошчана каменем. Але яна была замошчана і некалькі гадоў назад, калі Бухман прыязджаў на пахаванне жончынай маці. А цяпер і жонка памерла. Сорак гадоў назад, калі Бухман ажаніўся з Жэняй, гарадок з'едліва часаў языкі: такая здаровая, прыгожая дзяўчына выскачыла замуж за дахадзягу. Бухман тады страшна выглядаў: запалыя шчокі, увогуле змізарнелы твар і толькі з-пад навіслага лба ліхаманкава блішчэлі вялікія чорныя вочы.

Так, усё пазнае Бухман у гарадку, не пазнае толькі людзей. Ён пенсіянер і яго даўнія знаёмыя таксама, відаць, даўно на пенсіі. Таму па вуліцах не брындаюць. Корпаюцца на агародах ці грэюцца на лавачках. Тым болей, што гарадок побач з адселенай чарнобыльскай зонай.

Бухман садзіцца ў «Жыгулі». Ён яшчэ заедзе на пляц былой аўташколы і, можа, зойдзе ў аптэку. Бо гэта істотныя вехі ягонага жыццяпісу. Аптэка ўяўляла сабой чатырохкантовы дамок з высокім ганкам і пафарбаванымі ў белы колер аканіцамі. У адгароджанай для сям'і аптэкара палавіне дамка Бухман жыў да семнаццаці гадоў, пакуль не паступіў у аўтамеханічны тэхнікум. Бацькі яго памерлі рана, і добрая душа, жонка аптэкара, родная сястра маці прыгрэла яго каля сябе. Аптэкар Фах таксама быў добры чалавек. Кругленькі, добразычлівы, гаваркі, ён ніколі не абразіў Геню Бухмана ні словам, ні ўчынкам. Елі за адным сталом, не сварыліся, не тузаліся. Вядома, Геня жыў трохі горш за стрыечнага брата і сястру. Не насіў новых кашуль, портак. Іх яму звычайна пераніцоўвалі з паношаных. І па гаспадарцы Геня больш завіхаўся, чым яго стрыечны брат Ізя, які толькі чытаў кнігі ды перапісваў у альбом вершы.

Аптэка атаплівалася казённымі дрывамі, іх звычайна прывозіў камунгасаўскі грузавік, звальваў пасярэдзіне аптэчнага двара. Астатняе было справай рук Гені. Ён пераносіў плашкі ў хляўчук, пілаваў пілой-аднаручкай, калоў і складваў дровы ў стусы. Ён і грубкі паліў — ва ўсіх васьмі пакоях. У штатах аптэкі лічыліся прыбіральшчыца і вартаўнік. Але прыбіральшчыца больш завіхалася на кухні, а вартаўнік, стары, глухаваты дзед, адхропшы ноч на разасланым кажуху ў прыёмным пакоі, з раніцы шыбаваў дадому.

Гарадок хутчэй за ўсё вырас з вялікага, раскіданага сяла, відаць, дзякуючы таму, што праз яго прайшла чыгунка. І станцыя была пабудавана, нават у нейкай меры вузлавая, бо менавіта тут ад асноўнай магістралі адгаліноўвалася ветка ў паўднёва-прыпяцкія раёны. Было дэпо, паваротны круг, машыністы, іх памочнікі, кандуктары, якія вадзілі цягнікі.

Аптэка размяшчалася блізка ад станцыі і ў яе сценах былі выразна чуваць гудкі паравозаў, ляскат буфераў, нават пранізлівыя свісткі кандуктараў, счэпшчыкаў. Бухману падабаўся ўвесь гэты гул і гармідар. Ён нібы адчуваў сябе побач з цывілізацыяй, бо ўвогуле любіў жалеза, машыны, тэхніку.

Але не паравозы кранулі сэрца задумлівага, засяроджанага, з пышнымі завіткамі рудаватых валасоў падлетка. У блізкай адлегласці ад аптэкі размяшчалася не толькі чыгуначная станцыя, але і засаджаны маладымі таполямі пляц аўташколы. У той час, калі Геня Бухман дасягнуў чатырнаццаці-пятнаццаці гадоў, аўташкола рыхтавала шафёраў для лясной прамысловасці. Адначасна яна выпрабоўвала аўтамабілі-газагенератары, вялізныя прымацаваныя побач з кузавам бакі якіх запаўняліся дубовай чуркай. У баках гарэла чурка, скапляўся газ, і газ рухаў маторы.

Быў спецыяльны цэх, дзе з дубовых плашак піла-цыркулярка рэзала чуркі, і Геня напачатку дапамагаў пільшчыкам. Пазней пачаў падсаджвацца ў кабіны да шафёраў.

Вучылі шафёраў вадзіць грувасткія газагенератары не ў гарадку, дзе на пыльнай вуліцы можна было лёгка задавіць курыцу, парасё, а то і наехаць на глухаватую бабулю, а вёрст за шэсць ад гарадка, дзе сярод маладых сасновых пасадак была спецыяльна адведзена вялікая, зарослая сіўцом, наздраватым шызым мохам паляна, на якой будучыя шафёры рабілі кругі і віхлястыя петлі.

У пятнаццаць гадоў Геня стаў вадзіць газагенератар. Гэта быў бадай што лёс. Бо пасля аўтатэхнікума быў аўтабатальён, якім, пачынаючы з другой, пераможнай палавіны вайны, капітан Бухман стаў камандаваць.

Таму, намячаючы прыезд у гарадок, Бухман вельмі хацеў пабачыць пляц аўташколы і тую сасновую паляну, дзе ён фактычна стаў шафёрам.

Пляц аўташколы не ўразіў. Акрамя таполяў. Таполі паднялі свае залацістыя шаты ледзь не пад самыя аблокі. Шасціць пад нагамі апалае лісце, тоўстыя пласты якога ляжаць на ўсіх сцежках і дарожках разлеглага аўташкольнага двара. Доўгія, як адрыны, драўляныя карпусы як бы прыселі, сталі, відаць, звычайным камунальным жытлом. Сушыцца на вяроўках бялізна, валяюцца на дарожках дзіцячыя веласіпеды, мячы, вядзерцы.

Аптэка на тым жа месцы. Парадкам збуцвела, страціла свой ранейшы фацэтны выгляд. Аптэкар Фах пасля вайны ў гарадок не вярнуўся. Асеў аж у Магнітагорску, куды ягоную сям'ю загнала вайна.

Стоячы на тратуары насупраць аптэкі, Бухман упершыню бачыць знаёмы твар. З памяшкання аптэкі выходзяць двое мужчын у форменнай вопратцы лясной аховы — старэйшы і маладзейшы, і ў першым, зусім сівым, з няголеным, зарослым сівой шчацінай тварам, Бухман пазнае Сяргея Задарожнага, свайго аднакласніка, найлепшага ў школе матэматыка і шахматыста.

— Сяргей, — няголасна аклікае ён былога таварыша. — Падыдзі да мяне.

— Бухман, — Сяргей нібыта зусім не здзіўляецца і ніяк не выказвае сваіх пачуццяў. — Змяніўся ты здорава, але пазнаць можна. Быў рыжы, а стаў, як я, сівы...

— Старасць мяняе шатэнаў, бландзінаў, брунетаў на сівых дзядоў. Ты, здаецца, быў шатэн?

— Бландзін. Нават альбінос. Альбіносы мала мяняюцца. Я пра цябе ведаю, — дадае Сяргей. — Ты ў Дубне. Атамшчык.

— Цяпер пенсіянер. Збіраюся перабрацца бліжэй да вас. У горад на Прыпяці...

— Іван, — тым часам звяртаецца Задарожны да маладзейшага спадарожніка. — Дастань...

І кладзе яму ў далонь чырвоную грашовую паперку.

Іван увішны. Сяргей з Бухманам не паспелі як след разгаварыцца, як ён ужо з'явіўся з загорнутай у газету бутэлькай.

**МУЗЫКА**

# ПРАФЕСІЯ — РЭПЕТЫТАР

**Прафесія педагога-рэпетытара належыць да някідкіх, нябачных для гледача, але неабходных прафесій, без якіх немагчыма паўнацэннае існаванне творчага калектыву. Гэта прафесія высакародная і ў пэўным сэнсе драматычная. Бо калі крытык аналізуе новы харэаграфічны твор, у цэнтры яго ўвагі зусім справядліва аказваецца рэжысёрская інтэрпрэтацыя музычнага твора, агульная пастановачная канцэпцыя, сцэнаграфія, майстэрства салістаў і г. д. Плён працы педагога-рэпетытара, асістэнта балетмайстра, які дапамагае і пастаноўшчыку, і салістам, — ён прысутнічае ва ўсім і канкрэтна нібыта ні ў чым. Калі гавораць пра адметную творчую індывідуальнасць саліста, ну, як тут выявіць, падзяліць: што знойдзена ім самім, што тактоўна падказана педагогам. Вынік дасягаецца агульнымі намаганнямі—кветкі і авацыі прымае артыст...**

**Ды толькі, мне здаецца, гэтая акалічнасць не надта турбуе майго героя, бо думкі пра ўласную славу зусім не займаюць яго. Вы здагадаліся! Гэтыя радкі — пра заслужанага артыста БССР, педагога-рэпетытара Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР Аляксандра Аляксандравіча СМАЛЯНСКАГА.**

— Жыццё маё склалася шчасліва, бо я меў магчымасць працаваць з многімі буйнымі савецкімі харэографамі—Р. Захаравым, А. Месэрэрам, І. Бельскім, С. Дрэчыным, А. Вінаградавым. А хіба не шчасце — сумесная, на працягу больш як пятнаццаці гадоў, праца з Валянцінам Мікалаевічам Елізар'евым, калі на тваіх вачах нараджаліся спектаклі, якім потым апладзіравалі ў многіх краінах свету?

Я меў магчымасць не толькі назіраць, але і ўдзельнічаць у працэсе стварэння многіх нацыянальных твораў —«Выбранніцы» Я. Глебава (а потым ягонага ж «Кургана»), спектакля «Пасля балю» Г. Вагнера, дзвюх рэдакцый балета Я. Глебава «Ціль Уленшпігель».

Давялося пабачыць у Мінску многіх выдатных артыстаў — тут танцавалі Марыс Ліепа, маладыя Міхаіл Барышнікаў і Наталля Макарава. Памятаю, як на прэм'еру «Спартака» ў 1964 годзе прыязджаў Арам Хачатуран. Ён дырыжыраваў адной з карцін балета.

У 60-ыя гады на сцэне тэатра выступалі такія цудоўныя артысты, як В. Давыдаў, Н. Давыдзенка, В. Міронаў, А. Карзянкова, І. Савельева, Л. Ражанава, В. Крыкава, Р. і М. Красоўскія. Мне даводзілася займацца з імі і адначасова самому ў іх вучыцца.

**— Ад многіх салістаў нашага балета мне даводзілася ў розны час чуць словы сапраўднага захаплення тым, як вы праводзілі ранішнія «ўрокі»...**

— Калі ў 1964 годзе я пачаў працаваць у Мінску як педагог-рэпетытар, мне даводзілася спачатку весці мужчынскі «клас», потым жаночы. Здаралася, артысты, якія займаліся на першым уроку, прыходзілі потым на другі. І я, зразумела, баяўся паўтораў. Загадзя дэталёва прадумваў пабудову ранішняга «ўрока», чарговасць пэўных камбінацый.

У той час маімі настольнымі былі кнігі А. Месэрэра, А. Ваганавай, М. Тарасава. Я іх старанна вывучаў. У Месэрэра пазычыў прынцып пабудовы «ўрока» праз пэўны стрыжнявы рух — вялікае жэтэ альбо, напрыклад, кабрыёль. Тады «ўрок» ператвараецца ў своеасаблівую сімфонію са сваімі скразнымі пластычнымі тэмамі.

**— Якімі якасцямі, на ваш погляд, павінен абавязкова валодаць педагог-рэпетытар?**

— На пытанне адкажу пытаннем. Як вы лічыце, рэпетытар — гэта прафесія?

**— Зразумела!**

— Але ж ёй нідзе ніхто не вучыць. Рыхтуюць педагогаў, балетмайстраў, а не рэпетытараў. Парадокс нашай прафесіі — яна быццам ёсць, а быццам яе і няма...

Наогул справа, якой я займаюся, вельмі складаная. Тут трэба быць і педагогам, і псіхолагам. Калі ты рэпеціруеш з салістам, трэба адчуваць яго настрой, яго індывідуальныя магчымасці, а не навязваць сваё разуменне партыі і вобраза, тыя пластычныя нюансы, якія былі ўласцівы табе. Рэпетытар павінен быць перш за ўсё мудрым. Першым шукаць кантакт, у нечым саступіць, дапамагчы. Тады прыходзіць узаемаразуменне. Іншым разам праходзяць дзве-тры рэпетыцыі, а ты не можаш знайсці «ключык» да пэўнай індывідуальнасці. Для педагога-рэпетытара сапраўдная асалода — працаваць з артыстам, які ўважліва слухае і творча выконвае твае патрабаванні. Таленавітаму чалавеку, здараецца, трэба толькі адно слова сказаць, намякнуць...

**— Вы выбіраеце самі, з кім і што вам рэпеціраваць, ці гэта ад вас не залежыць?**

— Раней, калі я быў адзін, рэпеціраваў усё сам. Цяпер, калі аб'ём працы большы і колькасць рэпетытараў большая, я рэпецірую толькі з кардэбалетам. Але ўсе спектаклі. Акрамя балетаў, рэпеціірую таксама танцавальныя сцэны ў операх — «Вальпургіева ноч», «Палавецкія скокі».

Наогул з кардэбалетам працаваць вельмі складана. Бо менавіта па яго пластычнай культуры, выразнасці, а не толькі зладжанасці, сінхроннасці — гэта элементарныя рэчы — мяркуюць аб майстэрстве трупы, узроўні выканання харэаграфічных твораў. Вельмі важна пад час рэпетыцый дасягнуць максімальнай выразнасці, каб спектакль захаваў уласны характар, адметны стыль. Памятаю, калі ў Мінску праходзіў Усесаюзны фестываль музычных тэатраў краіны, дык на абмеркаванні беларускага спектакля «Балеро» нехта з крытыкаў адзначыў, што кардэбалет танцуе, як ансамбль салістаў. Гэтыя словы прагучалі як вышэйшая адзнака маёй працы. А наогул уласную звышзадачу я бачу ў тым, каб слава беларускага балета, яго высокі прафесійны прэстыж пацвярджаўся кожным выступленнем...

**— Што, на вашу думку, прадухіляе заўчаснае старэнне пастаноўкі?**

— Тут шмат залежыць ад сумленнасці рэпетытара. Асабіста мне дапамагае тое, што я прысутнічаю пры стварэнні спектакля, назіраю ўвесь рэпетыцыйны перыяд. Ведаю патрабаванні балетмайстра, яго трактоўку вобразаў, разуменне драматургічнага канфлікту, адметнасць яго стылю. Памятаю, некалькі гадоў назад у тэатры павінен быў адбыцца соты паказ «Альпійскай балады» Я. Глебава. Дарэчы, гэта здараецца не так ужо і часта, каб сучасны балет прайшоў столькі разоў. На юбілейны спектакль быў запрошаны яго пастаноўшчык — А. Дадзішкіліяні. Ён потым шчыра прызнаўся, што баяўся ехаць і глядзець, бо думаў, што ад той, ранейшай «Альпійскай балады» нічога не засталося, адна толькі мёртвая форма. І быў вельмі ўзрадаваны, што яго даўні спектакль — жывы...

**Дадатковымі штрыхамі да партрэта героя, мяркую, будуць думкі людзей, якія шмат працавалі разам з Сан Санычам — так клічуць у тэатры Смалянскага.**

**Людміла БРЖАЗОЎСКАЯ, народная артыстка БССР:**

**— Са Смалянскім я рыхтавала ў тэатры свае першыя партыі... Асаблівасць Аляксандра Аляксандравіча ў тым, што ён умее стварыць творчы, працоўны настрой. І таму ў час рэпетыцый артыст танцуе на мяжы магчымасцей, нібыта на спектаклі... Нездарма, калі Смалянскі раніцой уваходзіў у рэпетыцыйную залу, артысты часта сустракалі яго апладысментамі...**

**Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ, народны артыст СССР, галоўны балетмайстар тэатра:**

**— Аляксандр Аляксандравіч Смалянскі — сапраўдны прафесіянал. Яго вызначаюць патрабавальнасць да артыстаў, вялікі вопыт, майстэрства. Ён дасканала ведае тэксты балетаў, пастаўленых не толькі мной, але і іншымі харэографамі.**

**Педагог-рэпетытар, асістэнт балетмайстра — гэта ў нечым нават унікальная прафесія. У нашым мастацтве, на жаль, дагэтуль адсутнічае сістэма запісу асобных танцаў ці ўсяго спектакля наогул. І рэпетытар павінен ведаць, трымаць у памяці тэксты велізарнай колькасці балетаў. А галоўная яго задача заключаецца ў тым, каб спектакль ужо пасля прэм'еры, у працэсе яго сцэнічнага жыцця не «распадаўся», каб выканаўчае майстэрства салістаў і кардэбалета трымалася на дастаткова высокім узроўні. Быць педагогам-рэпетытарам — для гэтага трэба мець прызванне. Смалянскі — чалавек на сваім месцы, ён працуе менавіта па прызванні...**

**Асаф МЕСЭРЭР, народны артыст СССР, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР, педагог класа ўдасканалення артыстаў балета Вялікага тэатра:**

**— Мне давялося няшмат працаваць разам са Смалянскім — пад час маёй пастаноўкі ў Мінску «Лебядзінага возера». Ён не проста назіраў за рэпетыцыямі, каб потым усё старанна развучыць з артыстамі, але шмат прапаноўваў, удакладняў. Я выкарыстоўваў яго парады. Ведаю, што пазней ён узнавіў маю рэдакцыю «Лебядзінага возера» ў тэатры оперы і балета ў Ніжнім Ноўгарадзе.**

**У Мінску мне даводзілася прысутнічаць на яго ўроках, рэпетыцыях. Гэта таленавіты чалавек, цудоўны рэпетытар, выдатны педагог. Ён працуе не проста добрасумленна, але і захоплена, эмацыянальна, творча. І яшчэ. З ім, чалавекам абаяльным, прыемна размаўляць, знаходзіцца побач. Інтэлігентнасць — гэта такая рэдкая сёння з'ява...**

Таццяна МУШЫНСКАЯ.



А. Смалянскі рэпеціруе...

# ЯК ДАКОР НАМ...

...Некалі прыгожы палац Сапегаў зараз ляжыць у руінах. На месцы капліцы пабудавалі кароўнік, і транспарцёр раз-пораз выкідвае адтуль бруд. І як здзеклівая ўсмешка, на фоне гэтага — шыльда каля зруйнаванага палаца: «Ахоўваецца дзяржавай».

Так называецца і новы дакументальны фільм кінарэжысёра Юрыя Марухіна. Пабудова гэтай кінастужкі простая — у ёй паказаны сучасны стан тых помнікаў беларускага дойлідства, якія афіцыйна знаходзяцца пад аховай дзяржавы. Невялічкі фільм (усяго дзве часткі) нельга нават назваць крыкам душы — гэта стогн... Некаторыя помнікі архітэктуры зруйнаваны, знішчаны настолькі, што глядзець на іх спакойна немагчыма. Яны не толькі не рэстаўруюцца — гэта нават і не плануецца.

На экране — рэшткі Крэўскага замка, адзінага на Беларусі, які пабудаваны на дрыгве, замка ў Любчы... І як дакор мінулых пакаленняў нам сённяшнім — гравюры, зробленыя ўсяго 100 гадоў назад, якія захавалі былое хараство гэтых збудаванняў.

Фільм здымаўся ў лістападзе-снежні 1990 года. З гутаркі з Юрыем Марухіным я даведаўся, што першапачатковай задумай яго было зрабіць стужку аб помніках Беларусі, якімі рэспубліка магла б ганарыцца. Але ў час работы планы змяніліся. Бо сучасны стан помнікаў ніяк не адпавядаў задуме. І тады знялі фільм пра тое, што ўбачылі...

Прыгажосцю царквы ў Сынкавічах захаплялася сама шведская каралева і прасіла, каб ёй прыслалі чарцяжы будынка. Дзе ж было ведаць каралеве, што ў тую царкву будзе заязджаць на кані калгасны брыгадзір і выганяць на працу бабулек, якія ў святочны дзень прыйшлі памаліцца? Навагрудскі замак быў самым непрыступным збудаваннем на Беларусі, а зараз ад яго засталіся толькі рэшткі замкавай вежы. Пра ўсё гэта ў фільме гаворыць прафесар Міхась Ткачоў, старшыня БСДГ, вядомы таксама сваёй кнігай «Замкі Беларусі». Ягоныя разважанні і замяняюць дыктарскі тэкст. З кнігі нарысаў Уладзіміра Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі» Ткачоў цытуе легенду пра тое, што Бог даў беларусам усё, акрамя разумнага кіраўніцтва. Гэтыя словы — як падсветка таго, што мы бачым на экране.

І ўзнікаюць пытанні. Сапраўды, чаму нашы суседзі, летувісы і палякі, здолелі аднавіць і адрэстаўраваць свае лепшыя помнікі дойлідства, а мы не можам? І хто канкрэтна павінен несці адказнасць за жахлівы стан занядбанасці, які мы ўбачылі? І ці ёсць у нас надзеі на лепшае?

Удача фільма ў тым, што ён не мае адбітку безнадзейнасці. Пра гэта сведчаць кадры са Свята-Ефрасіннеўскай царквы і Сафіі Полацкай, Навагрудскага і Нясвіжскага касцёлаў. Пра гэта кажа ў фінале і Міхась Ткачоў. Надзея на тое, што ўрад рэспублікі зменіць свае адносіны да справы рэстаўрацыі помнікаў, надзея на тое, што наша пакаленне пабачыць аднаўленае іх хараство,—ёсць. Пачынаць адраджэнне Бацькаўшчыны трэба якраз з адраджэння яе гісторыі.

**Ягор КОНЕЎ,**
**студэнт факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна.**

# «РАДЗІЎСЯ ПАД ХМУРЫМ СОНЦАМ...»



У гісторыі беларускага Адраджэння значнае месца належыць выдатнаму савецкаму лінгвісту Пятру Бузуку, які нарадзіўся 19 чэрвеня 1891 года ў вёсцы Шэрпены Першай акругі Бендэрскага павета (Бесарабія). П. Бузук быў прафесарам Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна і Вышэйшага педагагічнага інстытута, дырэктарам Інстытута мовазнаўства АН БССР, членам літаратурнага аб'яднання «Маладняк», падпісваў свае вершы псеўданімам П. Росіч.

Да 1909 года вучыўся ў Ціраспальскай гімназіі. У 1911-16 гг. — студэнт Адэскага гістарычна-філалагічнага інстытута. У 1920 годзе паспяхова здаў магістарскія экзамены і стаў выкладчыкам філалагічных навук у Адэскім універсітэце. У 1924 годзе абараніў доктарскую дысертацыю на тэму *«Да пытання аб месцы напісання Марыінскага евангелля»*.

У 1925 годзе па запрашэнню ўрада Беларусі пераехаў у горад Мінск чытаў у БДУ некалькі філалагічных курсаў. Пазней загадваў кафедрай мовазнаўства ў Вышэйшым педагагічным інстытуце (цяпер Мінскі педінстытут імя М. Горкага).

П. Бузук — аўтар больш 60-ці навуковых прац па мовазнаўстве. Яго навуковая праца «Спробы лінгвістычнай геаграфіі Беларусі» — гэта, па сутнасці, першы дыялектычны атлас у славянскім мовазнаўстве.

Вучоны актыўна ўдзельнічаў у стварэнні правапісу і графікі беларускай мовы. Яму належыць шэраг прац, прысвечаных пытанням культуры беларускай літаратурнай мовы, яе становішчу сярод славянскіх моў.

Па сцвярджэнню жонкі П. Бузука Ганны Рыгораўны і дачкі Кацярыны Пятроўны ў гутарцы са мной 27 мая г.г. муж і бацька першы раз быў арыштаваны ў 1931 годзе, але праз месяц быў вызвалены, у другі раз Пятра Апанасавіча арыштавалі ў 1934 годзе і выслалі на тры гады на пасяленне ў Волагду, дзе вучоны працаваў спачатку бібліятэкарам, а затым выкладчыкам нямецкай мовы ў Валагодскім педагагічным інстытуце. Увосень 1937 года быў зноў арыштаваны. 17 снежня 1938 года расстраляны.

Рэабілітаваны ў 1956 годзе.

Прапаную чытачам «ЛіМа» чатыры вершы П. Бузука — П. Росіча.

Захаваны аўтарскі правапіс.

Яфім ГАВАРУШКА.

П. РОСІЧ

## Зіма ў Беларусі

**Радзіўся я пад хмурым сонцам.**
**Пачаўшы свой кругаварот,**
**Яно зямельку там бясконца**
**Пячэ амаль што цэлы год.**

**І нават ўжо, як з дрэў гальлістых**
**Вятры астаткі шат зьнясьлі,**
**У мора шляхам серабрыстым**
**Уяжджае сонца — бог зямлі.**

**А тут ўжо ў хмурым лістападзе**
**Пушыстым інеем цьвітуць**
**Кусты і дрэвы ў нашым садзе,**
**Над галавой драты гудуць.**

***У вяршынках елак цэпкай ватай***
**Застраў зімы густы цяжар,—**
**А дворнікі ў руках з лапатай**
**Барыкадуюць тратуар.**

**Міргне дзень шэраю гадзінай,**
**І на зямлю паўзе змрок зноў;**
**Шмалі прадуць вуаль-тканіну**
**У сьвятле малочным ліхтароў.**

**Мне сьніцца поўдзень ў ноч глухую,**
**Але ж усё-ткі, прызнаюсь,**
**Люблю радзіму я другую**
**Люблю цябе я, Беларусь.**
(«Маладняк», 1927, № 3).

## Здрада

**Я ўжо здрадзіў табе, дарагая,—**
**Прамяняў на квадрат гарадоў**
**Стракату твайго жніўня і мая**
**І капрызны малюнак садоў.**

**Помню вечар. З галля вымыкаўся**
**На прасторы нябёс медны таз.**
**Хутка зьменшыўся,— і захістаўся**
**У пэрламутравым моры баркас.**

**А цяпер, толькі захад адзвоніць,**
**Месяц гасіць электро-ліхтар.**
**Ўзмах крыла серабрыстага гоніць**
**Цьму пужлівую ў хмурны бульвар.**

**Ночкай зімняй — канец ёй ці будзе! —**
**Цьмой праглынуты, жду пявуноў.**
**А цяпер роўна ў сем мяне будзіць**
**Зык бадзёры фабрычных гудкоў.**

**У дзевяць хвалі мяне падхапляюць...**
**Гоман, грукат... Трамваі грызуць**
**Рэйкі скрогатам. Аўто рыкаюць.**
**Гандляры свае песьні пяюць.**

**Ня сумуй-жа: ўсё роўна пакрые**
**І цябе брук праз дзесяць гадоў;**
**Над вясковым тэатрам завые**
**Многаструнны оркэстр правадоў.**
(«Маладняк», 1927, № 2).

## У Крыму

СОНЭТ

**Усё тут як казка альбо дзіўны сон:**
**Зьлілося вунь з далёкім небам мора,**
**А кіпарысамі прашыты горы...**
**Бяжыць уперад хутка шэраг дзён.**

**А за сьпіной вялізны Чатыр-даг**
**Цалуецца з праменем, падпірае**
**Блакіт нябёс, і часта разрывае**
**Хмар чэрава яго зялёны дах.**

**Імкнуцца сіл набрацца ў сонца, ў мора**
**Сюды з палёў далёкіх, з ціхіх рэк,**
**І тут яны канчаюць часам век.**

**Няўжо-ж магчымы тут і сьмерць, і гора!**
**А можа й не! Пад хваляў звон**
**Прыходзіць к людзям ціхі, вечны сон.**
Алушта, 1927 г. («Маладняк», 1927, № 9).

## Новаму богу

(Прысвячаецца Янку Купале)

**Вуха маё ўжо болей ня муліць**
**Рыпам капуставым сьнег,**
**Восьпенны твар паказала свой вуліца,**
**Брукам сьмяецца вясьне.**

**Раніца новаму моліцца богу,**
**Скрогат жалеза і грук...**
**Ламавікоў барадатыя ногі**
**Цокам грызуць ужо брук.**

**Тут у ваколіцы цягнецца вуліца**
**Пусткай цаглянай сьцяны,**
**К небу вужакаю дым чорны туліцца,**
**Пэцкае просінь вясны.**

**Новаму горад моліцца богу,**
**Цягнецца к небу лясамі антэн,**
**Грае на струнах гімн перамогі,**
**Ловіць з паветра гукаў струмень.**

**Увечары вочы шкляныя крамаў**
**Глянуць хвастамі электра-комэт,**
**Моўчкі танцуюць сьвета-рэклямы,**
**Цемру трывожаць ўзлётам ракет.**

**Ноччу бяззорнаю новаму богу**
**Моліцца моладзь у новых царквах:**
**«Зможам пражыць мы бяз бога старога,**
**Шчасьце сусьвету ў нашых руках!»**
(«Полымя», 1928, № 5).

# Ці з'ядуць нас «акулы імперыялізму»

(Пачатак на стар. 5).

мой ідэі эканамічнай самастойнасці? Вядома, не. Яна — у структуры нашай вытворчасці, якая дазваляе прадпрыемствам-манапалістам дыктаваць сваю волю спажыўцу. Альбо вазьміце тую ж кааперацыю, якая, акрамя агіды, ніякіх іншых пачуццяў у аўтара не выклікае. Ці ж у тым, што наш *кааператыўны рух прыняў такія* пачварныя формы, вінавата кааперацыя як такая? Зноў-такі не. Там, дзе рынак замяняе Дзяржснаб, там ніякай цывілізаванай кааперацыі быць не можа. А цяпер давайце паставім пытанне шырэй: чаму «эксплуатацыя» ў нашай дзяржаве «сацыялістычнага выбару» пабіла ўсе сусветныя рэкорды? Адказ відавочны: прычына — у манаполіі дзяржавы на ўласнасць. Нават у тым выпадку, калі б наша шырока разрэкламаванае права на працу не трансфарміравался ў **прымусовую працоўную павіннасць,** нават у гэтым выпадку дзяржава, валодаючы манаполіяй на ўласнасць, мела б нічым не абмежаваныя магчымасці скупляць рабочую сілу за бясцэнак. Есці ж чалавеку трэба. Нарэшце, ці не каланіяльная эканамічная залежнасць Беларусі (як, між іншым, і любой іншай рэспублікі) ад «інтэрнацыянальнага», г. зн. пазбаўленага якіх бы там ні было этнічных каранёў, Цэнтра з яго адмаўленнем самой ідэі Айчыны прывяла да падмены нацыянальнай самасвядомасці манкурцкім сурагатам «самай перадавой ідэалогіі»? Я павінен з усёй шчырасцю сказаць, што тое бачанне праблемы, якое прапаноўвае *аўтар, дыктуе пэўную стратэгію* адраджэння: маўляў, дастаткова выдаць «Краткий курс истории ВКП(б)» на беларускай мове, і ўсе пытанні будуць зняты. Канечне ж, аўтар так прымітыўна не думае. Але логікі ён трымаецца менавіта такой.

Нам усім трэба, нарэшце, зразумець: разгул ценявой эканомікі, татальная карупцыя — гэта кроўныя дзецішчы каманднa-распарадчай эканомікі. І ніякі Б. Пуга, ніякі В. Кручкоў, ніякі нацыянальны падзвіжнік, які заклікае да нацыянальнай самасвядомасці і нацыянальнай годнасці, ні ўсе яны разам узятыя нас ад іх не пазбавяць. Для гэтага існуе адзіны шлях: ліквідаваць тое сілкавальнае асяроддзе, на якім прарастаюць і ценявая эканоміка, і карупцыя, г. зн. ліквідаваць манаполію дзяржавы на ўласнасць. А вось як гэта зрабіць, якім чынам правесці раздзяржаўленне і прыватызацыю ўласнасці — гэта ўжо іншае пытанне. І тут я цалкам падзяляю трывогу пісьменніка. Нельга дапусціць абкрадання народа, прымусіць яго расплачвацца за эканамічную некампетэнтнасць М. Рыжкова і В. Паўлава, як гэта прадугледжвае канцэпцыя раздзяржаўлення нашага прэм'ера «новага тыпу». Нельга дапусціць, каб уласнасць, якая стваралася працай пакаленняў усяго народа, была перададзена толькі нейкай частцы грамадства ва ўрон другой яго частцы. Задача гэта неймаверна цяжкая, але зусім вырашальная. Механізмы такога больш-менш справядлівага раздзяржаўлення ўласнасці эканамістам вядомы. Але гаворка пра іх выходзіць за рамкі той задачы, якая перада мной тут стаяла. Скажу толькі ў заканчэнне, што апасенні пісьменніка наконт экспансіі «акул імперыялізму» не маюць пад сабой сур'ёзнага грунту. Пра гэта сведчыць увесь сусветны вопыт. Ды і наш уласны вопыт пераконвае: не хочуць скупляць нас «акулы імперыялізму», не хочуць інвеставаць нашу прамысловасць. А вось тое, што раздзяржаўленне *ўласнасці пакладзе канец*ператварэнню нашага народа ў працоўную армію «сусветнай камуністычнай рэвалюцыі»,— дык гэта праўда. Я прапаноўваю Аляксею Мікалаевічу парадавацца разам са мной такой перспектыве.

**В. АКУЛАЎ,**
**доктар філасофскіх навук,**
**прафесар.**



# У АЗЯРНІЦУ ДА АЛЕСЯ СУЧКА...

Цікавая і арыгінальная кніга выйшла з друку ў канцы мінулага года ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» — «Ростані волі». *Яна — своеасаблівы пра*цяг кнігі «Сцягі і паходні», што пабачыла свет у 1965 годзе. Першую і другую склалі вершы паэтаў былой Заходняй Беларусі. Падрыхтаваў іх да друку Уладзімір Калеснік.

Сярод твораў аўтараў «Сцягоў і паходняў» і «Ростаняў волі» надрукаваны вершы малавядомага паэта са Слонімшчыны Алеся Сучка (П. Дабрыяна). У зборнік «Сцягі і паходні» ўвайшлі чатыры яго творы, а ў кнігу «Ростані волі» — восем... Застаецца толькі падзякаваць складальніку, які ў *пасляваенны* час змог упершыню прадставіць рэспубліканскаму чытачу вершы гэтага сціплага і шчырага чалавека.

...Ёсць на Слонімшчыне вёска з прыгожай назвай Азярніца, дзе шмат гадоў жыве Пётр Навумавіч. Я часта бываю ў яго ў гасцях. І калі ёсць вольны час, ідзём да Бяздоннага возера, якое побач з вёскай.

— Люблю гэтыя мясціны, — гаворыць Пётр Навумавіч. — Памятаеш, як пісаў пра іх Уладзімір Караткевіч у сваім рамане *«Хрыстос прызямліўся ў Гародні»*: «Пад вечар мы прыйшлі з ім на бераг Бяздоннага возера пад Слонімам і тут вырашылі начаваць. Возера было ўсё празрыста-чырвонае, гладкае, як люстра. І лясы вакол яго былі таксама зялёна-аранжавыя...».

Побач з Бяздонным возерам знаходзіцца унікальны старажытна-славянскі могільнік V—IX стагоддзяў. А недалёка—вёска Збочна, радзіма беларускага паэта, празаіка, дзіцячага драматурга Кандрата Лейкі (1860 —1921). Гэтыя мясціны добра ведае Алесь Сучок, бо ўсё яго жыццё звязана з імі.

Нарадзіўся П. Дабрыян у 1916 годзе, а ў 1926 годзе паступіў у першы клас польскай школы ў вёсцы Мяльканавічы. Вясной 1932 года ўступіў у нелегальную беларускую піянерскую арганізацыю. Разам з равеснікамі змагаўся за адкрыццё беларускіх школ, за вольную Беларусь. Праз некаторы час яго арыштавала паліцыя, а ў верасні 1935 года буржуазны акруговы суд прыгаварыў да чатырох гадоў турэмнага зняволення. Выйшаўшы з турмы, П. Дабрыян зноў уключыўся ў падпольную работу. Ды ў лютым 1939 года яго арыштавалі другі раз і пасадзілі ў Картуз-Бярозу...

Вершы пачаў пісаць яшчэ ў турмах і пасылаў іх у Вільню. А каб схавацца ад праследаванняў, падпісваўся псеўданімам Алесь Сучок.

У 1938 годзе віленскі часопіс «Шлях моладзі» ўпершыню змясціў тры ягоныя вершы «Вясна», «Мне ахвота», «Я бачыў», у якіх Алесь Сучок услаўляў свабоду:

Я бачыў — усходзіла сонца,
З-за горкі зіхцела яно.
І, яснае, пекна бясконца
Свяціла й свяціла ў акно.
І песцілі душу праменні,
У сэрца мне сілы лілі,
У думках ўставалі імкненні —
За сонцам плылі і плылі...

Сёння вершы Алеся Сучка, напісаныя ў трыццатыя гады, маюць перш за ўсё літаратурна-гістарычную цікавасць. Іх агульны пафас — стваральны, сугучны нашым пераўтварэнням. Гэта вершы-заклікі, вершы-лозунгі. Паэт-змагар вучыўся паэтычнаму майстэрству ў Валянціна Таўлая, Максіма Танка, Міхася Васілька і ў іншых паэтаў Заходняй Беларусі. «І хоць вершам не ставала паэтычнага натхнення, а то часам і звычайнай мастацкай тэхнікі, — пісаў Аляксей Пяткевіч (зборнік артыкулаў «Наднёманскія былі») — яны хвалявалі, бо былі вельмі сугучныя думкам і настроям шырокіх працоўных мас. Асобныя творы Алеся Сучка завучваліся мясцовай моладдзю на памяць, іх дэкламавалі на маладзёжных сходках і вечарынках».

У гады Вялікай Айчыннай вайны П. Дабрыян быў у партызанах. За гэта ён узнагароджаны баявымі ордэнамі і медалямі.

У пасляваенны час працаваў у райгазеце, старшынёй сельскага Савета, на чыгунцы. Але па-ранейшаму шмат пісаў вершаў, артыкулаў-успамінаў пра Заходнюю Беларусь. Уладзімір Калеснік неяк падкрэсліў: «Мастацкая вартасць прыкметна паблякла ў смузе часу, але для гісторыі літаратуры такія рэчы, як, напрыклад, вершы Алеся Сучка (П. Дабрыяна), маюць сваё значэнне, іх нельга выкінуць, як слова з песні» (зборнік «Сцягі і паходні»).

Нягледзячы на свой 75-гадовы ўзрост, Алесь Сучок не перастае складаць вершы, якія пастаянна друкуюцца на старонках раённай і абласной газет. Ён вядзе вялікую работу на Слонімшчыне і Зэльвеншчыне па вывучэнні беларускай культуры і літаратуры.

Пётр Навумавіч любіць сустракаць гасцей. І калі хто з мінчукоў будзе на Слонімшчыне, не забудзьце завітаць у Азярніцу да Алеся Сучка. Ён з вялікім задавальненнем пачытае свае вершы, падзеліцца ўспамінамі і абавязкова, я ўпэўнены, пачастуе пчаліным мёдам.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

# СВЯТА КІРЫЛЫ І МЯФОДЗІЯ Ў БЕЛАРУСІ

**ГІСТАРЫЧНЫ ДОСВЕД**

Працуючы ўжо амаль паўтара года ў Беларусі, я пераканаўся, што балгарскія асветнікі з даўніх часоў былі вядомы братняму беларускаму народу. Ён шанаваў памяць святых братоў Кірылы і Мяфодзія, называў іх імёнамі свае цэрквы і манастыры, перапісваў іх кнігі, пісаў іх аблічча на іконах, пра што сведчаць экспанаты музея ў г. Ветцы.

«Як найбольш зручны для пісьма алфавіт, які адпавядае ладу славянскіх моў, «кірыліца», — пісаў акадэмік М. Ціхаміраў,— сцвердзілася ў Балгарыі, Сербіі, у Расіі, на Украіне і на Беларусі... Усе самые старажытныя рускія кнігі і надпісы, за малымі выключэннямі, напісаны кірылаўскай азбукай». Пасля хрышчэння Русі з'явілася пільная патрэба мець для царквы свой збор канонаў, і Русь атрымала яго з Балгарыі. Славянскі збор канонаў набыў вядомасць на Русі пад назвай «Кормчая кніга». Правілы гэтай кнігі манахі перапісвалі ў сваіх манастырах і распаўсюджвалі іх сярод народа. Такім шляхам атрымалі іх духоўныя і свецкія асобы. «Кормчая кніга» стала неадменным законам праваслаўнай Царквы на Русі. Вядома, што Полацк, які побач з Кіевам і Ноўгарадам з'яўляўся буйнейшым старажытнаславянскім культурным цэнтрам, устанавіў плённыя сувязі з Балгарыяй. Кнігі Кірылы і Мяфодзія знаходзіліся ў бібліятэцы Еўфрасінні Полацкай. Манастыры Полацкага і Тураўскага княстваў з'яўляліся буйнымі апірышчамі асветы. У Спаса-Ефрасіннеўскім у Полацку, Барысаглебскім у Бельчыцах і іншых манастырах пісаліся і перапісваліся царкоўныя і свецкія кнігі. Заслугоўвае асаблівай увагі асветніцкая дзейнасць на Беларусі таленавіцейшых людзей свайго часу, відных балгарскіх царкоўных і грамадскіх дзеячаў Кіпрыяна (1336—1406) і яго пляменніка Рыгора Цамблака (1364 — каля 1420), выхаванцаў знакамітай школы патрыярха Яўфімія Тырноўскага. Кыпрыян быў мітрапалітам Кіеўскім, і працаваў пэўны час на Беларусі. Вось чаму імя Кіпрыяна ўключана ў пантэон святых і гэтым выказана ўдзячнасць чалавеку, які на працягу 30 гадоў кіраваў рускай царквой. У «Памятнай кніжцы» Віцебскай губерні на 1889 год, дзе ўказаны вядомыя рускія святыя і мясцова шанаваныя падзвіжнікі, адзначана: «Киприан, митрополит Киевский и Московский, 1406 г. 16 сентября и 27 мая».

Цікава адзначыць і такі факт. Вядома, што ў баях за вызваленне Балгарыі ў 1877—1878 гг. удзельнічалі і сыны Беларусі ў складзе мінскага і магілёўскага пяхотных, беларускіх уланскіх і гродзенскіх гусарскіх, а таксама ў складзе іншых палкоў. Яны змагаліся поплеч з балгарскімі апалчэнцамі пад Самарскім сцягам, на якім былі вывы Кірылы і Мяфодзія — быццам паўтараліся падзеі IX ст., калі Балгарыя ўспрыняла справу братоў як зброю ў барацьбе за сваю незалежнасць. Акрамя таго, з пачатку XIX стагоддзя да 1877 г. Расія вяла некалькі войнаў за вызваленне славянскіх народаў, якія насялялі тэрыторыі па той бок Дуная. У сілу гэтага ўсе песні і гімны рускіх кампазітараў А. Барадзіна і П. Чайкоўскага маюць двайсты сэнс: гэта былі гімны ўдзячнасці, праслаўлення Кірылы і Мяфодзія, у іх выказвалася спачуванне лёсу балканскіх славян.

У цэнтры сталіцы Беларусі знаходзіцца будынак былога Кірыла - Мяфодзіеўскага манастыра, асвечанага імёнамі святых братоў 4 студзеня 1860 года. У памяць аб гэтым і была створана царква «Святых Кірылы і Мяфодзія» ў падвале Свята-духаўскага сабора. На будынку былога манастыра 24 мая мінулага года быў устаноўлены барэльеф з абліччамі святых братоў, адбылося афіцыйнае перайменаванне вуліцы, якая прылягае да манастыра і царквы, у вуліцу Кірылы і Мяфодзія.

На тэрыторыі Беларусі існуе яшчэ адна царква, якая носіць імя славянскіх першанастаўнікаў. Яна знаходзіцца ў Пагосце-Загарадным Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. А раней іх было, напэўна, намнога больш. Згодна статыстычным дадзеным аб цэрквах і царкоўных прытчах Полацкай епархіі, змешчаных у «Памятнай кніжцы» Віцебскай губерні за 1889 г., «пры Віцебскай духоўнай семінарыі існавала царква Кірылы і Мяфодзія — мураваная, трывалая, цёплая».

У Беларусі (мяркуючы па дакументах ЦДГА, ф. 458, воп. 1, с. 111А) свята святых братоў было перш за ўсё святам вучняў і выкладчыкаў. Пратакол пасяджэння вучылішчнага савета Мінскай Дырэкцыі народных вучылішчаў ад 14 студзеня 1885 года сведчыць аб своечасовай падрыхтоўцы ўсіх школ да свята. Свята было звязана з тысячагоддзем з дня смерці Мяфодзія і прашэннем Славянскага Дабрачыннага Таварыста «сделать зависящее распоряжение об освобождении от занятий в означенный день всех воспитанников и воспитанниц учебных заведений округа, а также о том, чтобы в стенах оных были устроены, после Божественной литургии в этот день, торжественные собрания с произнесением приличных случаю речей, и, если представится возможность, с духовным пением».

Вучылішчны савет пастанавіў: «Учебные заведения города Минска, подведомственные Минской Дирекции народных училищ, имеют ознаменовать этот торжественный день следующим образом: После совершения Божественной литургии ученики всех учебных заведений г. Минска соберутся в здание женского 3-х классного училища, где первее всего будет пропеть тропарь св. Кириллу и Мефодию. Затем законоучитель женского училища священник Теодор Миткевич обратится к присутствующим с краткой речью, в которой пояснит: значение праздника, краткое жизнеописание великих первоучителей и значение их деятельности среди славян и будет приступлено к совершению молебствия, по окончании которого и по провозглашении обычного многолетия г. Директором училищ будет сказана приличная торжеству речь. После этого хор из учеников и учениц начальных училищ г. Минска пропоет: Слава Кириллу и Мефодию, Русский народный гимн, Коль славен Боже, Боже милосердный и другие песни, после чего детям будет роздано «Краткое житие Св. Кирилла и Мефодия».

Вучылішчны Савет Дырэкцыі пастанавіў, каб сельскія народныя вучылішчы Мінскай губерні таксама адсвяткавалі дзень славянскіх першанастаўнікаў наступным чынам: «Для придания большей торжественности празднику и для большого ознакомления народа с празднуемым событием Совет Дирекции находил бы весьма полезным, чтобы по окончании Божественной Литургии и молебена в Церкви, совершены были, при пении тропаря Св. Кириллу и Мефодию, крестные ходы из церквей в училища, чтобы таким образом молящиеся в церквах могли бы принять участие и в молитве в училищах. По прибытии из церкви в училище, местными законоучителями должно быть сказано несколько слов о жизни и деяниях Св. Кирилла и Мефодия и отслужено молебствие, по окончанию которого с провозглашением обычного многолетия, дети тех училищ, в которых преподается пение, пропоют народный гимн, Коль славен и некоторые народные песни».

На Беларусі, як і ў Балгарыі, адзначалі свята Кірылы і Мяфодзія перш за ўсё як свята царкоўнае і свецкае. І гэта адпавядае гістарычнай праўдзе. Бо першанастаўнікі не толькі далі славянам азбуку, але і перш за ўсё ўсю багаслужэбную літаратуру. Невыпадкова на старэйшых абразах і сценапісах быў надпіс: «Величаем Вас, Светии равноапостольнии Мефодие и Кирилле. Все славянские страны учением своим просветовшие и ко Христу приведшие». У гэтых адносінах ўшаноўванне славянскіх асветнікаў у Мінску ў 1990 годзе з'явілася слаўным працягам традыцыі.

Заслугоўвае ўвагі і той факт, што ў свята была канкрэтная мэтанакіраванасць. Як запісана ў дакуменце, «дабы была польза практическая», кожнай школе прадаставіць партрэты Кірылы і Мяфодзія, кожнаму вучню — кароткае жыціе, а настаўнікам — пашыранае. У гэтых адносінах мы маглі б павучыцца ў нашых продкаў. Бо ў мінулым годзе прагучаў на свята гімн Кірылы і Мяфодзія на беларускай мове, але пасля свята — ні пласцінак, ні касетных запісаў у школах так і не з'явілася. Хацелася б спадзявацца, што гімн Кірылы і Мяфодзія на Беларусі будзе гучаць кожны год ў маі:

Ідзі, народзе уваскрэслы,
да светлай прышласці ідзі,
з пісьменствам, гэтай
сілай новай,
шчаслівы лёс сабе знайдзі!

**Пётр КУЦАРАЎ,**
**консул Генеральнага консульства Рэспублікі Балгарыя ў Мінску.**

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

## «...ЧЭСЦЬ АДДАЦЬ АЎТАРЦЫ...»

Гэта радок з верша Францішка Багушэвіча «Яснавяльможнай пані Арэшчысе», адрасаванага славутай польскай пісьменніцы Элізе Ажэшцы. Усё яе жыццё было цесна звязана з Прынёманнем, яна пастаянна падтрымлівала творчыя сувязі з дзеячамі беларускай культуры.

Творчасць Э. Ажэшкі вельмі блізкая і дарагая нам яшчэ і таму, што пісьменніца з вялікай пашанай адносілася да ўсіх людзей, усіх нацыянальнасцяў. І героі яе кніг жылі разам на гэтай зямлі ў добрасуседстве і згодзе.

Таму, безумоўна, 150-гадовы юбілей Э. Ажэшкі стаў буйной культурнай падзеяй на Гродзеншчыне. У Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі адкрылася цікавая выстава, прысвечаная пісьменніцы. Звяртаюць на сябе ўвагу унікальныя фотаздымкі пачатку стагоддзя, скульптурны партрэт Э. Ажэшкі, асабістыя рэчы, ёсць нават арыгінал гербарыя, які яна збірала. Усе гэтыя экспанаты красамоўна сведчаць пра тое, як пісьменніца была звязана з гродзенскай зямлёй.

6 чэрвеня прадстаўнікі грамадскасці горада і вобласці, госці наведалі каталіцкія могілкі, усклалі кветкі да яе магілы.

Затым у Гродне, па вуліцы, што носіць імя нашай славутай зямлячкі і дзе ўстаноўлены ёй гранітны помнік, адбыўся літаратурны мітынг. Шчырае слова аб творчасці гэтай цудоўнай пісьменніцы сказаў гродзенскі літаратар А. Пяткевіч. Адзін з кіраўнікоў Саюза палякаў Беларусі — Р. Кацынэль — падкрэсліў, што творы Э. Ажэшкі маюць вялікае значэнне для духоўнага адраджэння, бо ў іх услаўляецца высокая чалавечая маральнасць. Затым свае вершы прачыталі маладыя паэты — удзельнікі літаратурнага аб'яднання «Наднёманскія галасы».

Завяршыўся гэты дзень канцэртам самадзейных артыстаў на пляцоўцы каля дома-музея Э. Ажэшкі.

Праграма юбілейных урачыстасцей была працягнута 10 чэрвеня, калі ў абласным драматычным тэатры адбыўся літаратурны вечар. Аб творчасці Э. Ажэшкі расказала загадчыца кафедры польскай філалогіі Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Я. Купалы С. Мусіенка. На вечары выступілі таксама Ю. Голуб, супрацоўніца абласной бібліятэкі Л. Шагун, літаратар з Беластока (Польшча) А. Амельяновіч. Цёплае слова пра творчую спадчыну пісьменніцы сказаў і А. Карпюк, які шмат зрабіў для арганізацыі гэтага святкавання. А завяршыўся вечар спектаклем Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа па аповесці Э. Ажэшкі «Хам».

Выступае Аляксей ПЯТКЕВІЧ. Справа — Аляксей КАРПЮК.

У заключэнне варта сказаць аб ініцыятыве, якую праявілі абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры і абласная бібліятэка імя Я. Карскага. Яны сумесна выпусцілі спецыяльны нумар газеты, прысвечаны юбілею. Тут матэрыялы аб жыццёвым і творчым шляху пісьменніцы, вершы гродзенскіх паэтаў да гэтай даты, бібліяграфія твораў Э. Ажэшкі.

**М. ДУБРАВІН,**
**журналіст.**

Ля дома-музея пісьменніцы гучаць народныя песні.
Фота У. ВЫДЗЕРКІ.

## На свяце Сымона-музыкі

Добрай традыцыяй робіцца фестываль юных музыкаў Мінскай вобласці, якому дадзена імя адной з паэм Якуба Коласа. Праводзіцца ён у канцы навучальнага года ў другі раз. Фестываль дае магчымасць удзельнікам паказаць сваё выканаўчае майстэрства, вернасць традыцыям нацыянальнай культуры. Сёлета свята музыкі супала з 85-годдзем пачатку творчай дзейнасці народнага песняра.

У першым фестывалі, які праводзіўся ў рамках III Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці, прынялі ўдзел 164 выканаўцы з 17 музычных школ Мінскай вобласці. Другі сабраў удзельнікаў утрая больш: далучыліся і калектывы мастацкай самадзейнасці школьнікаў.

Шмат новых талентаў адкрыў агляд-конкурс. Вялікі поспех выпаў на долю навучэнцаў Барысаўскай музычнай школы. Другі раз атрымала галоўны прыз дзевяцігадовая скрыпачка Людміла Бацека. Дыпломы атрымалі ансамбль скрыпачоў малодшых і старшых класаў (кіраўнік А. Фаменка) і унісон цымбалістаў (кіраўнік Л. Скачан).

**М. ПІШЧАНКА.**
г. Барысаў.

## ГЕРБУ МАГІЛЁВА — 330 ГАДОЎ

Гэтай знамянальнай падзеі ў жыцці горада была прысвечана вечарына, арганізаваная культурна-асветніцкай суполкай беларусаў «Машэка» у мясцовым мастацкім музеі. Дэвізам яе сталі словы паэта Андрэя Мельнікава: «Шмат гадоў, шмат стагоддзяў таму, калі ворагі лезлі да нас, бралі зброю і йшлі на вайну ўсе, хто мог тую зброю трымаць...»

Пра аднаўленне гістарычнай памяці народа гаварыў М. Ермаловіч. Фальклорны гурток А. Ткачовай з Мінска выканаў народныя песні. На вечарыне гучалі таксама вершы, пераклады.

Спонсарам гэтага мерапрыемства стаў Камерцыйны банк Магілёва. А сябры суполкі «Машэка» звярнуліся да гарвыканкома з прапановай штогод 9 чэрвеня (менавіта 9 чэрвеня 1661 года Магілёў і атрымаў герб) ці ў бліжэйшую да гэтай даты нядзелю праводзіць свята горада.

**І. ПУШКІН,**
**сябра рады суполкі «Машэка».**

Госць музея Мікола ЕРМАЛОВІЧ.
Фота С. МІЗГАЙЛЫ.

## Авохці мне!

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

**Над пыхай, над фальшу смяемся даўно — «пацеха», «камедыя», «проста кіно». З пагардаю сочым за хватамі, што зараз нам «ляпяць гарбатага», і цяжка ўжо, цяжкавата «дурыць нашага брата».**

●

**Паэт радзіў бадзёрыя радкі: «Па ўсёй краіне нашы землякі». Вось каб задумаўся, пяюн бязвусы, чаго так раскідала беларусаў.**

●

**Адзінае несапсаванае, што засталося нам ад савецкага, — савецкае шампанскае. Дык і таго няма. Ці то бутэлек не стае, ці то савецкага.**

●

**Казка. Пра светлае будучае, цёмнае мінулае і змрочную прышласць, пра людзей, што ўтрапёна ўглядаліся ў нязведаную даль, бо цвёрда верылі, што недзе яно зіхаціць, светлае будучае, і пра тое, як узорам такога будучага пачалі лічыць цёмнае мінулае.**

●

**Што можна ўбачыць, заплюшчыўшы вочы? Шмат! Калі ты відушчы.**

●

**Перспектыва: арганізацыі аховы помнікаў гісторыі і культуры знікнуць, як толькі не стане чаго ахоўваць.**

●

**— Які ён, гоман лесу? — пытаўся ва ўсіх вуж.**
**— Я дык чую толькі сябе, — сказала цяцера.**
**— А я — мышыны піск, — сказала ліса.**
**— А я — рэха таго, чаго ніхто не чуе, — сказаў кажан.**
**— Я наогул днём сплю, — сказала сава.**
**— Дык ці ёсць ён, гоман лесу, — завагаўся вуж, — каб быў, дык мы, тутэйшыя, пэўна нешта б ведалі.**

●

**Разглядаючы мемарыяльныя дошкі на прэстыжных дамах, уздыхаў: «Жылі ж людзі!»**

●

**Дэпартызацыя... дэідэалагізацыя... дэманапалізацыя... дэмуніцыпалізацыя... Не вымаўляецца, а — гучыць!**

●

**Пакуль мовазнаўцы раіліся, як пісаць: «шлях да камунізма» ці «шлях да камунізму», выявілася, што і шляху такога няма.**

●

**Механізацыя на ўзроўні сярпа і молата: сюды хлеб, туды золата.**

●

**Няхітрая справа рассякаць рукамі паветра, але як таленавіта гэта робяць некаторыя дырыжоры!**

●

**Рэквіем тэатру. Жонка рэжысёра, мажная кабета, грае на сцэне трапяткую Джульету. Нічога такога, сямейнасць — і годзе, а глядач выпендрываецца, на спектаклі не ходзіць. Рэжысёр тлумачыць: прымаем меры, шукаем п'есы, выбіваем кватэры, прайграем тэлебачанню, і тут ужо, шчыра, не чакаем цудаў нават ад Шэкспіра.**

●

**Камуністы называюць дэмакратаў «так званымі дэмакратамі», бо «так званымі камуністамі» дэмакраты камуністаў назваць не могуць.**

●

**Папоўнім спіс наіўных утапістаў імёнамі славутых камуністаў.**

Алесь КАСКО

# ПАЭТЫ Ў ЛЮСТЭРКУ АНКЕТЫ

### НЕПАХІСНЫ

Крытыкуюць? Дык гэта за
смеласць.
Не друкуюць? Шэдэўр, дык
ляжыць.
Хваляць М. А такая ўжо
шэрасць!
Дрэнь у Н. А ўзраслі тыражы...

### МАЛАДЫ

Крытыкуюць? А мы не зважаем.
Не друкуюць? Не нам бедаваць.
Хутка самі пасты пазаймаем:
хто — ухвальваць, а хто —
выдаваць.

### ЗНАХОДЛІВЫ

Крытыкуюць? Затое згадалі.
Не друкуюць? Затое партрэт
у даведніку надрукавалі.
Хто мне скажа, што я не паэт?

### ПЕРЫФЕРЫЙНЫ

Крытыкуюць? Няўжо ж...
Безаблічнасць.
Не друкуюць? Ага, трэці год...
Я пакуль што паэт не сталічны,
стану ім — буду мець
поўны ход.

### АБАЧЛІВЫ

Крытыкуюць? За што? Я ж
нічога...
Не друкуюць? Пра гэта не след
вам пытацца, пабойцеся бога,
і наогул — ніякіх анкет!

Малюнак А. ГУРСКАГА.

# Жарты з-за мяжы

Нядаўна трапіла мне пад рукі кніжка польскага аўтара Тадэвуша Квяткоўскага пад тытулам «Анекдоты з кухні (літаратурныя анекдоты)». Кароткія гумарыстычныя абразкі з жыцця пісьменнікаў, мастакоў, скульптараў ачалавечваюць біяграфіі вядомых прадстаўнікоў польскай культуры. Прачытаўшы кнігу, падумалася: «А што ў нас, на Беларусі?»

Неяк ад старэйшых чуў я такую быль. Сакратару Мінскага гаркома партыі па прозвішчу Саламаха не падабаліся паводзіны паэта Анатоля Астрэйкі. Ён запрасіў яго ў свой кабінет і доўга вучыў, як трэба жыць на свеце. Пасля гадзіннай маралі запытаўся ў Астрэйкі:

— Ну, што ты, Анатоль, скажаш мне цяпер?

Той адразу ж выпаліў:

— Тата з мамай далі маху, што зрабілі Саламаху.

Можа, гэта быў не Саламаха і не Астрэйка, але, як кажуць, няхай пішуць пра мяне добрае або кепскае, толькі б называлі прозвішча.

Дык вось, мне падумалася, а што, калі і ў нас знойдуцца збіральнікі анекдотаў з літаратурнай кухні? І каб заахвоціць іх — прапаную некалькі перакладаў з кнігі Тадэвуша Квяткоўскага, якая выйшла ў Кракаве.

**Ад аўтара перакладу.**

●

Андрэй Стопка часам любіў выказваць свае думкі не зусім дыпламатычна, што заўсёды выклікала незадавальненне яго жонкі Віцулі. Аднойчы Стопка збіраўся наведаць Міністэрства культуры і мастацтва. Віцуля прасіла яго, каб ён прытрымаў свой язык і, прынамсі, адмовіўся ад злоўжывання словам лацінскага паходжання, якое характарызуе жанчын лёгкіх паводзін.

— Дык што мне казаць? — нервова спытаў Стопка, — можа, замяніць яго на «жабу»?

— Кажы «жаба», — пагадзілася Віцуля, — але тое слова там не ўжываюць.

Сустрэча адбылася ў элегантным кабінеце, і Стопку прыйшлося да сэрца папярэджанне жонкі. На працягу гадзіны ён ані разу не ўжыў забароненага слова і нават не замяніў яго «жабай». Калі сустрэча падышла да канца, міністр узяўся праводзіць Стопку да дзвярэй. І тут Андрэй нечакана зачапіўся за дыван.

— Ах! — вырвалася ў яго. І ўжо хацеў выкарыстаць сваё любімае ўзмацняльнае слова, але ўспомніў папярэджанне жонкі і дадаў: — Жаба!

На гэта міністр схіліўся над дываном і са здзіўленнем сказаў:

— О, курва! Адкуль тут узялася жаба?

●

Бельгійская каралева Альжбета ў час побыту ў Варшаве спытала ў Яраслава Івашкевіча, які суправаджаў яе па горадзе:

— Ці спадар каталік?

— Так. Веруючы, але не выконваючы абрады.

— А можа, вы камуніст?

— Так. Выконваючы абрады, але не веруючы.

●

Некалі на адным пасяджэнні секцыі прозы пры варшаўскім аддзяленні Саюза польскіх літаратараў адзін з пісьменнікаў быў неміласэрна раскрытыкаваны тагачаснымі «зубрамі». Засмучаны спусціўся ён у кавярню пісьменнікаў. Сустрэў яго там Тадэвуш Бароўскі і спытаў:

— Што ты цяпер пішаш, Стась?

— Г...о, — адказаў той лаканічна.

— Гэта я ведаю, — кіўнуў галавой Бароўскі, — але пад якой назвай?

●

Нейкі раззлаваны артыст, незадаволены, што яму адмовілі ў стыпендыі, скіраваўся ў Міністэрства культуры і мастацтва і там, уварваўшыся ў кабінет адказнага міністэрскага кіраўніка, у прысутнасці некалькіх асоб назваў яго «ідыётам». Абражаны кіраўнік звярнуўся ў суд, і артыст трапіў у турму на два з паловай гады. Казалі, што паўгода атрымаў за абразу асобы, а два гады за раскрыццё дзяржаўнай таямніцы.

●

У пяцідзесятых гадах у літаратурных колах казалі, што цяпер у модзе тры новыя плыні: фармалізм, рэпрэсіяналізм і соцізраэлізм.

●

Неяк у кавярні варшаўскіх літаратараў на Кракаўскім прадмесці Януш Мінкевіч сказаў:

— У апошні час надта многа людзей выганяюць з партыі і такім чынам засмечваюць нашы шэрагі беспартыйных.

●

Пасля славутай «адлігі» пасля кастрычніка 1956 года ў аднаго з пісьменнікаў, які напісаў некалькі твораў метадам сацыялістычнага рэалізму, запыталіся, што ён думае аб новым пераломе ў літаратуры.

— Вельмі добра стала, бо ўжо пачало бракаваць вялікіх прамысловых прадпрыемстваў для апісання.

— А што вы сам думаеце пісаць? Чуў, што на вашым стале новы твор.

— Так, працую з поўным натхненнем.

— Гэта будзе нешта з жыцця рабочых і іх працы? Або, можа, нешта пра вёску?

— Не. Прадукцыю перарабляю на лёгкі раманс, а трактар на псіхалагічнага інтэлігента.

Пераклаў з польскай
В. КАЛІНОЎСКІ.

Андрэй ФЕДАРЭНКА

# «МАЛПІНА МОВА»

## ГУМАРЭСКА

**У Зошчанкі ёсць такі абразок — «Малпіна мова»; жахлівы дыялог са словамі пленарнае, кворум, перманентна, індустрыя канкрэтна і індустрыя фактычна... Пад канец пісьменнік іранічна зазначае, што «цяжка размаўляць па-рускy», маючы на ўвазе перанасычанасць мовы іншаземнымі словамі. Дык вось, калі пераказаць гэты, напісаны 66 гадоў назад, абразок са спасылкай на беларускі матэрыял, атрымаецца, па-мойму, вельмі надзённа. Глядзіце:**

**Я нядаўна стаяў на мітынгу. Прамоўцы, відаць, спрачаліся, каму пярвей выступаць, і таму пакуль ніхто не выступаў. А збоку двое балэкалі. Адзін, у бялюткай кашулі і пры гальштуку, але ў пашарпанай мантажнай касцы, павярнуўся да суседа, мужчыны ў скураным пінжаку, але ў брудных спяцоўках на руках, і гучна так, на чысцюткай беларускай мове, спытаў:**

**— Вы не чулі, кансенсус учора быў дасягнут?**

**— А як жа, — адказаў сусед, — чуў. Прэзентацыя паўнейшая была дасягнута.**

**— Што вы кажаце? — здзівіўся першы. — Прэзентацыя нават адбылася? То-та мне сон сніўся — вада нейкая, дарога... Аж гэта, значыць, да прэзентацыі дзела йшло.**

**— На гэты... конт можаце не хвалявацца. Адбылася прэзентацыя, спакойна, хораша, нават рэйтынг паспелі сабраць.**

**— Во як, — з павагаю азваўся першы. — Няўжо яшчэ і рэйтынг паспелі?**

**— Яй Богу.**

**— І што ён, рэйтынг гэты?**

**— Нічога, — сусед трошкі разгубіўся. — Сабраўся, і ўсё.**

**Першы прыцмокнуў і з жалем паківаў галавою. Другі спачатку глянуў на яго строга, потым паблажліва ўсміхнуўся:**

**— Вы, бачу, не надта горнецеся да гэтых самых прэзентацый, рэйтынгаў... А мне, ведаеце, дык яны неяк і блізкія. З маленства, можна сказаць. Слухаю, дык як масліцам па грудзечках. Асабліва, калі інвестыцыю падпускаюць... Ох, тады трымайся! Але, прызнаюся, апошнім часам у мяне як бы інверсія да гэтых прэзентацый. Так, ведаеце, прыватызацыя з пустога ў парожняе.**

**— Ну, гэта раз на раз не даводзіцца, — не згадзіўся першы. — Асабліва, калі ўлічваць бартэр.**

**— Бартэрную здзелку, — паправіў строга сусед.**

**— Так, сапраўды, — пагадзіўся першы, — можна сказаць і бартэрную здзелку. Бабка, як той казаў, пораўну дзяліла.**

**Тым часам выйшаў урэшце прамоўца і пасыпаў як сухі гарох у міску: прэцэдэнт, дывідэнд, апанент, кампанент, страйк, брэйк...**

**— Гэта хто ўзяў слова? — спытаў сусед у спяцоўках.**

**— А гэта парламентарый узяў слова, — адказаў сусед у касцы. — Знакаміты рупар галоснасці, хораша асвятляе бягучы момант.**

**Але тут сусед у спяцоўках глянуў на гадзіннік, узважыў у руцэ пустую торбачку і заспяшаўся. Сусед у касцы яго прытрымаў:**

**— Спанаравілась мне з вамі дыскуціравацца. Пакіньце мне свой тэлекс.**

**— Як?**

**— Ну, факс у вас які?**

**— Э-э... пяцьдзесят два.**

**— Што пяцьдзесят два?**

**— А што факс?**

**...Вось ужо сапраўды, панове, — цяжка размаўляць па-беларуску!**

Міхась СКОБЛА

# ДЗЕ АПІРЫШЧА?

Што вывучаць? З чаго пачаць?
Між іншым, можна і з дзяўчат.
. . . . . . . . . . . ,
Па чым раўняцца? Па чынах,
Ці па вачах каханай?

Я. МІКЛАШЭЎСКІ.

**Я на Парнасе, як на пласе.**
**Якіх я тут шукаў прыгод?**
**Кароў бы пасвіў у калгасе**
**І жыў бы ціха, без турбот.**

**А то на гэтай верхатуры,**
**Дзе ўсе чужыя, не радня,**
**З мяне смяюцца нават куры,**
**А шэф дык дражніцца штодня:**

**— За што цябе прагналі з**
**«вуза»?**
**Калі за п'янку ды з-за дам —**
**Я праганю цябе з Саюза**
**І нават пенсіі не дам!**

**І як дамоклаў меч — той**
**вырак...**
**Я ж — выдаў кніжак цэлы**
**стус!**
**Так, я — паэт! Я — тонкі**
**лірык!**
**Ну не раўнуючы, як Трус!**

**Сябры разумныя, парайце. —**
**Я звар'яцеў без дай прычын,—**
**На што мне зараз апірацца —**
**Няма чыноў — няма й жанчын!**


ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.

Рэдакцыйная калегія:

Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГІЛЕП, Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.

Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.

Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12